ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№10
(2516)

6 сакавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.



*ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ*



**8 Сакавіка ў нашай краіне адзначаецца Дзень жанчын. Кветкі і падарункі любімыя маці, жонкі, сяброўкі атрымліваюць на гэта свята ад моцнай паловы чалавецтва. Нашы жанчыны займаюць самыя розныя пасады і выконваюць самыя розныя абавязкі. Пра некаторых з іх раскажуць сёння фотаздымкі, змешчаныя на старонках газеты.**

**Першая ў гэтай галерэі — майстар мастацкай вышыўкі мінчанка Тамара ШАЎЦОВА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ІНТЭРВ'Ю З НАГОДЫ

## КРЫЖ МІХАІЛА САВІЦКАГА

У Міхаіла Андрэевіча Савіцкага я пабывала напярэдадні яго юбілею. Мастак быў добразычлівым і спакойным, схільным да філасофскіх разважанняў і іранічным.

У майстэрні холадна, а калі стаялі маразы, была такая нізкая тэмпература, што на вокнах змерзлі ў вазонах некаторыя кветкі.

— Я загартоўваюся, — жартуе Міхал Андрэевіч, — каб пратрымацца. Інакш такога жыцця не вытрымаеш.

Пад крэслам, у куточку, стаяць валёнкі, а як жа з рукамі?..

Я даўно не была ў Міхаіла Андрэевіча. Апошнія работы, што бачыла, былі з "Чарнобыльскага цыкла", і таму натуральнае пытанне, над чым ён працуе зараз.

— Стараюся паказаць наш час. Наогул задача мастацтва — адлюстроўваць тое, што адбываецца ў грамадстве.

— Не ўяўляю, як можна на палатне адлюстраваць **наш** час.

— Неверагодна складана, — пацвярджае мастак. — Калі скончыўся так званы сацыялістычны рэалізм, скончыліся і патрабаванні, якія прад'яўляліся тады да мастацтва. А мяне і раней абвінавачвалі, што я не сацыялістычны рэаліст. Былі да мяне прэтэнзіі нават на апошняй Усесаюзнай выставе ў Маскве, калі беларускія прадстаўнікі знялі адну маю работу. Прычым, была яна не ў беларускім раздзеле, а ва ўводным. І ўсё роўна запатрабавалі зняць.

— Той лад, у якім мы жывём, як, на вашу думку, ён называецца?

— Буржуазны лад, самы што ні ёсць дзікі. Мы назіраем нечаканую з'яву: былыя самыя заўзятыя камуністы пачалі лаяць камуністаў. Былыя галоўныя камуністы зноў жа на высокіх пасадах. Вось такія неверагодныя кульбіты выкідвае жыццё. Ну і як гэтыя кульбіты адлюстраваць? Вось і звярнуўся я да Бібліі. Рашыў, што мне хопіць Новага запавета. У ім сканцэнтраваны чалавечы вопыт за многія стагоддзі, знайсці можна адказы на многія пытанні. Так я пачаў пісаць біблейскія сюжэты, сугучныя нашаму часу. "Хаджэнне па водах" — Хрыстос ідзе па вадзе і не тоне, таму што ён перакананы і верыць да канца. І Пятру даводзіць, што, калі ён будзе верыць, то зможа ісці па вадзе. Той стаў на ваду — трымае, а потым падумаў: як жа так, а раптам перастане трымаць, падумаў і праваліўся. "Зняцце з крыжа" — такая тэма ёсць у многіх мастакоў. У мяне — гэта рэабілітацыя. Распялі лепшых людзей, а потым рэабілітавалі.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ВЫТОКІ НАТХНЕННЯ — РОДНАЯ ЗЯМЛЯ





**Вядомы беларускі скульптар Іван Міско стварыў сваю першую скульптурную кампазіцыю "Юнацтва" ў далёкім 1957 годзе. Гэта была дыпломная работа выпускніка Мінскага мастацкага вучылішча. У 1966 годзе скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў. Яму пашчасціла, ён вучыўся майстэрству, працуючы побач з такімі славутымі скульптарамі, як А. Глебаў, З. Азгур, А. Бембель.**

**У садружнасці з калегамі Мікалаем Рыжанковым, Андрэем Заспіцкім, архітэктарам Алегам Трафімчуком Іван Міско стварыў мемарыяльны помнік маці-патрыёткі Настассі Купрыянавай, які ўстаноўлены ў Жодзіне.**

**Але, бадай, галоўнай тэмай І. Міско стала касманаўтыка. І першым, вядома, быў партрэт Юрыя Гагарына. Скульптарам створаны і бюсты славутых беларускіх касманаўтаў: двойчы Героя Савецкага Саюза Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка, якія ўстаноўлены на іх радзіме — у Брэсце і ў горадзе Крупкі Мінскай вобласці.**

**Але ўсё ж вытокі натхнення скульптара — гэта людзі працы, родная зямля.**

**НА ЗДЫМКАХ: Іван МІСКО ў сваёй майстэрні; работа І. МІСКО "Беларусачка".**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

СЛУЖБА ПРАКАТУ

## АГОНІЯ ЦІ ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ?

Здаецца, няма нічога больш сумнага і звыклага, чым служба пракату: прыйшоў, прад'явіў пашпарт, заплаціў грошы і нясі дамоў хоць раскладушку, хоць халадзільнік. Але так было ўчора, а што сёння адбываецца з нашай службай быту? Агонія ці другая маладосць? І чаго цяпер чакаць нам, цярплівым кліентам некалі безальтэрнатыўнай сферы паслуг? Каб знайсці адказ на гэтае пытанне, я адправілася ў самы звычайны пункт пракату.

У 1992 годзе фірма пракату "Калі ласка" выйшла са складу дзяржаўнай фірмы "Адпачынак", зліласяа з закрытым акцыянерным таварыствам "Бытрадыётэхніка", якая аказвала ёй рамонтныя паслугі, і сёння з'яўляецца закрытым акцыянерным таварыствам "Бытрадыётэхніка". На кошт паслуг змяненне статуса не паўплывала, пракат тут каштуе столькі ж, колькі і ў дзяржаўных прадпрыемствах. Тут можна ўзяць у часовае карыстанне практычна ўсё, што можа спатрэбіцца ў гаспадарцы ці для адпачынку. Пракатны парк складае 8 тысяч адзінак.

Па словах дырэктара "Бытрадыётэхнікі" Івана Постніка, за апошнія гады ў сферы пракату пачаўся адток кліентаў: у людзей з'явіліся грошы і яны сталі неабходныя рэчы купляць. Цяпер свой тэлевізар і халадзільнік зноў даступныя далёка не кожнаму, і народ зноў пацягнуўся ў пракат. Да таго ж, салон размешчаны на вуліцы Куйбышава, побач са студэнцкімі інтэрнатамі, а студэнты заўсёды былі асноўным кантынгентам пракатных фірм. Бяруць усё, пачынаючы ад талерак, канчаючы халадзільнікамі. Часцей за ўсё цікавяцца тэлевізарамі, прычым, не толькі каляровымі, але і чорна-белымі. Закупляюць жа тут апошнім часам "Самсунгі", таму што якасць "Гарызонтаў" нізкая, і ўжо відавочна, што выгадней браць імпартную тэхніку, якая зраўнялася з айчыннай у цане, але значна перавышае яе па якасці. Нядаўна тут закупілі сто тэлевізараў "Самсунг" і пішучыя плееры той жа фірмы. Яны вельмі хутка разышліся, хаця пракатны кошт іх даволі высокі — 225 тысяч рублёў у месяц. Простае арыфметычнае дзеянне паказвае, што такі тэлевізар акупляе сябе праз трыццаць месяцаў. Пры ўмове,

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НАША БУДУЧЫНЯ

## РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

**Расійская асацыяцыя культурных і эканамічных сувязей Расіі і Рэспублікі Беларусь выступіла ініцыятарам правядзення ў Маскве 26 лютага кангрэса "Расія—Беларусь: мінулае, сучаснасць, будучыня". Ідэю падтрымала беларуская дыяспара ў Расіі, якая складаецца больш чым з двух мільёнаў чалавек.**

**— Палітыка правядзення эканамічных рэформ у краінаах СНД супярэчыць плануемай інтэграцыі, а самастойнае функцыянаванне эканомік даецца з вялікай цяжкасцю, таму што разбураны адзіныя вытворча-тэхналагічныя комплексы. Многія рашэнні, якія прымаюцца ў рамках СНД, павісаюць у паветры. Зыходзячы з узнікшай сітуацыі, прэзідэнты Расіі і Беларусі дамовіліся ажыццявіць аб'яднанне эканомік пры захаванні суверэнітэтаў. Мы спадзяемся, што шырокі абмен думкамі на кангрэсе па гэтай тэме дапаможа перааодолець цяжкасці, што ўзнікаюць на шляху нашага збліжэння, — заявіў, адкрываючы кангрэс, прэзідэнт Асацыяцыі культурных і эканамічных сувязей Расіі і Рэспублікі Беларусь Мікалай Панічаў. Яго выступленне, як, зрэшты, і сама тэма кангрэса, вызначылі танальнасць далейшай размовы.**

**Удзельнікі кангрэса склалі зварот да народаў Расіі і Беларусі, урадаў, парламентаў і грамадскіх арганізацый дзвюх краін з заклікам падтрымаць ініцыятывы прэзідэнтаў Б. Ельцына і А. Лукашэнкі, накіраваныя на расійска-беларускае аб'яднанне.**

**У рабоце кангрэса прынялі ўдзел палітычныя і дзяржаўныя дзеячы дзвюх краін, мэры Масквы і Мінска Ю. Лужкоў і У. Ярмошын, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, жаночых, ветэранскіх і маладзёжных структур, якія падтрымліваюць працэс інтэграцыі.**

**Па словах кіраўніка беларускай дэлегацыі віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча, што прагучалі на кангрэсе, беларускі бок у адпаведнасці з дагаворам аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі зрабіў нямала. Яшчэ больш — у планах. На апошнім пасяджэнні Савета Міністраў Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што ўрад рэспублікі ўжо ў бліжэйшы час падрыхтуе свае прапановы па найбольш важных пытаннях расійска-беларускага Супольніцтва, якія будуць абмеркаваны ў час сустрэчы двух прэзідэнтаў. Ён падкрэсліў, што трэба пакончыць з рознагалоссямі, прыватнымі разрозненнымі дзеяннямі асобных органаў дзяржаўнага кіравання, якія ўдзельнічаюць у інтэграцыйных працэсах.**

ШАНЦ НЕ СТРАЦІЛІ

## СУПОЛЬНАСЦЬ ЗДЗЕЙСНІЛАСЯ

**Расійска-беларуская супольнасць здзейснілася — такая галоўная высноў, якую можна зрабіць пасля падпісання двухбаковага дагавора, лічыць Прэзідэнт РФ Барыс Ельцын.**

**Аб гэтым гаворыцца ў яго прывітанні ўдзельнікам кангрэса "Расія — Беларусь: мінулае, сучаснасць, будучыня", што адбыўся 26 лютага.**

**У сваім прывітанні Прэзідэнт адзначыў, што на аснове асэнсавання агульнасці нацыянальных традыцый "можна глыбей зразумець задачы сённяшняга дня, якія стаяць перад нашымі народамі, і здзейсніць прарыў у дастойную будучыню".**

**"Мы не страцілі гістарычны шанц на захаванне цывілізаванай формы сумеснага існавання брацкіх народаў", — адзначыў Прэзідэнт РФ.**

**"Толькі разам можна выканаць высокую місію, ускладзеную на Расію і Беларусь гісторыяй", — адзначаецца ў прывітанні Б. Ельцына.**

НА СУСВЕТНЫМ УЗРОЎНІ



**У Віцебскім дыягнастычным цэнтры ўстаноўлены магнітна-рэзанансны тамограф "Віста" амерыканскай вытворчасці, які па сваіх тэхнічных даных з'яўляецца базавым на сусветным узроўні. Прызначаны ён для атрымання адлюстравання сячэння любой часткі цела хворага.**

БУДНІ І СВЯТЫ ТАМОЖНІ





**Браслаўская тамажня — адна з тых, што ахоўваюць эканамічныя інтарэсы краіны на заходніх яе межах. З кожным годам павялічваецца тут грузапаток. Звыш 55 тысяч тон грузаў праследавала летась праз Браслаўскую тамажню. За гэты ж час таможнікамі выяўлена 357 правапарушэнняў. У даход дзяржавы пералічана 9 мільярдаў 590 мільёнаў рублёў.**

**Асабліва частымі сталі парушэнні пры перавозцы гуманітарнай дапамогі, калі акрамя заяўленых у дакументах грузаў, у кантэйнерах аказваецца вялікая колькасць розных рэчаў, адрасаваных канкрэтным людзям. Так спрабуюць бяспошлінна правезці радыё- і фотаапаратуру, бензапілы, бытавую тэхніку, мэблю і вялікую колькасць лякарстваў, сярод якіх многа моцнадзейных (часцей пратэрмінаваных).**

**Акрамя будняў таможнай службы, бываюць тут і святы. Менавіта такім стала наваселле Браслаўскай таможні ў новым будынку, дзе створаны ўсе ўмовы для нармальнай работы.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы будынак Браслаўскай таможні; галоўны інспектар аддзела па барацьбе з кантрабандай Рамуальд АЛЬХІМЁНАК разбірае моцнадзейныя лекавыя сродкі, затрыманыя супрацоўнікамі таможні.**

*"Наяўнасць сродкаў у гаспадарках, фінансавае становішча не дазваляюць гаварыць пра нейкія вялікія поспехі, дасягненні. Хаця, тут трэба быць аб'ектыўнымі, рост валавой вытворчасці, няхай сабе на 2—2,5 працэнта, — гэта ўсё ж такі не падзенне. І вось яно якраз мае псіхалагічнае і маральнае значэнне.*

*І другое заўважце: як бы хто сёння ні шумеў, насельніцтва краіны прадуктамі харчавання ўласнай вытворчасці забяспечана ў дастатковай ступені. Так, былі дробязныя збоі — і ўсяго толькі. Іншаземныя прадукты нашы ўласныя не выцясняюць. І гэтаму я надаю асаблівае значэнне. Здольнасць дзяржавы пракарміць сябе — гэта не толькі эканамічнае, але і палітычнае рашэнне.*

*Што датычыць задач, якія ставяцца на сёлетні год для сельскай гаспадаркі, то яны зусім не вышэйшыя, чым для іншых галін народнай гаспадаркі нашай краіны. Павышэнне вытворчасці ў цэлым на пяць працэнтаў ад узроўню папярэдняга года — задача рэальная, аб'ектыўная. Калі гаварыць аб першых сёлетніх даных, то па прадукцыі жывёлагадоўлі мы ідзём якраз з улікам гэтых пяці працэнтаў. Па некаторых напрамках і болей. Але гэта пачатак года".*

*(З інтэрв'ю Уладзіміра ГАРКУНА, віцэ-прэм'ера Рэспублікі Беларусь, карэспандэнту газеты "Звязда").*

У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

## ПАЛЯВАННЕ ЗА ВАЛЮТУ

**Нацыянальны парк "Белавежская пушча" падвёў вынікі паляўнічага сезона. Прадастаўленне сотні іншаземцаў магчымасці папаляваць прынесла парку валюты на суму больш мільярда рублёў. Паляванне вялося ў рамках так званага селекцыйнага адстрэлу хворых і траўміраваных жывёлін. Ганаровыя трафеі накшталт іклаў і рагоў паехалі цешыць паляўнічае самалюбства паноў бюргераў, а мяса пайшло ў каўбасны цэх.**

ПРЫЗНАЧЭННІ

## В. ЦАПКАЛА — ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў ЗША

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь В. Цапкала, былы намеснік міністра замежных спраў Беларусі, назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Мексіканскіх Злучаных Штатах па сумяшчальніцтву.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

МІНІСТЭРСТВА статыстыкі і аналізу паведаміла, што сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых Беларусі ў студзені 1997 года склала 1 650 359 рублёў і ўзрасла ў параўнанні са студзенем мінулага года ў 1,6 раза.

449 ТЫСЯЧ КВАДРАТНЫХ МЕТРАЎ жылля было пабудавана ў 1996 годзе ў Мінску. Сёлета чакаецца, што ў сталіцы будзе ўведзена ў эксплуатацыю яшчэ 500 тысяч квадратных метраў жылой плошчы.

КОЛЬКАСЦЬ злачынстваў, якія звязаны з наркотыкамі, за апошнія 10 гадоў узрасла ў Беларусі ў 12 разоў, у 6,5 раза павялічылася колькасць наркаманаў.

У 1996 ГОДЗЕ ў Беларусі зарэгістравана 4 550 чалавек, якія прапалі без вестак, 3 714 з іх удалося адшукаць.

УПЕРШЫНЮ за шмат гадоў летась у сталіцы нараджальнасць перавысіла смяротнасць на 175 чалавек. Па даных на 1 студзеня 1997 года, у Мінску налічваецца 1 713 500 жыхароў.

ЛЕТАСЬ у Беларусі было зарэгістравана 127 тысяч злачынстваў — на 3,5 працэнта менш, чым у 1995 годзе. У турмах і ізалятарах утрымліваецца каля 58 тысяч зняволеных і падследчых.

КАНТРАБАНДА

## ТАКІЯ КАМЯНІ

**Цэлая калекцыя каштоўных горных мінералаў, затрыманых нядаўна на КПП "Казловічы", як кантрабандны тавар, перададзена па рашэнню Брэсцкага гарадскога суда ў даход дзяржавы.**

**Як адзначыў прафесар Альберт Багдасараў, які ўжо чатыры дзесяткі гадоў займаецца мінералогіяй, такія камяні ён бачыў толькі ў некалькіх вядучых музеях былога Саюза. Гэтыя монакрышталі, якія адносяцца да групы скарнавых узораў, здабыты ў гарах Казахстана. Прычым большасць з іх можна назваць унікальнымі — па колеру, памерах, вазе.**

НЕСУНЫ

## КРАДУЦЬ ТРАКТАРЫ

**На Мінскім трактарным заводзе раскрыта чарговая злачынная група, што займалася крадзяжом прадукцыі. На яе след навяло затрыманне супрацоўнікамі аховы падазронай кампаніі пры спробе перадаць праз заводскі плот 10 валаў адбору магутнасці да трактара маркі "МТЗ" на суму каля17 мільёнаў рублёў. Ужо выяўлены і астатнія члены гэтай групы, што спецыялізаваліся на крадзяжах дарагіх дэталей і вузлоў і збывалі крадзенае камерсантам. Напрыклад, як устаноўлена ў ходзе следства, за мінулы год яны ўмудрыліся вынесці з завода каля тысячы дыскаў счаплення. Усяго ж за 1996 год, як паведамляе газета "Советская Белоруссия", на МТЗ было затрымана 525 раскрадальнікаў, у якіх канфіскавана матэрыяльных каштоўнасцей больш чым на 1 мільярд 700 мільёнаў рублёў.**

«БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА»



**У вёсцы Доўгае Салігорскага раёна ў сельскім Доме культуры створана "Беларуская хатка" — своеасаблівы клуб аматараў народнай творчасці. Дзеці займаюцца тут саломапляценнем, аплікацыяй саломкай, вышыўкай, вязаннем. А кіруе "хаткай" выпускніца Мінскага мастацкага вучылішча Ірына ВАЛАТОВІЧ.**

АПОРА ЎЛАДЫ

## КОЖНАЙ ВЁСЦЫ — СТАРАСТУ

**У многіх вёсках Брэстчыны пачалі з'яўляцца старасты, якія выбіраюцца з ліку найбольш аўтарытэтных аднавяскоўцаў. У іх абавязкі ўваходзіць ахова інтарэсаў жыхароў свайго населенага пункта, вырашэнне дробных канфліктаў. Прычым у свае дзейнасці старасты не будуць падмяняць сельсаветы, хаця і стануць працаваць у цесным кантакце з імі. Дарэчы, рашэнне аб выбарах вясковых старастаў прыняў Брэсцкі аблвыканкам, які мяркуе, што яны будуць садзейнічаць паляпшэнню бытавога мікраклімату на сяле.**



ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ



Міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга ДАРГЕЛЬ.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# АГОНІЯ ЦІ ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

што за яго пракат не забываюць плаціць... А "забыўчывыя" кліенты якраз і з'яўляюцца асноўнай праблемай айчыннага пракату. Змагацца з імі вельмі складана. Згодна з правіламі, іскавую заяву ў суд можна афармляць ужо праз месяц пратэрмінаванага плацяжу. Але за кожны аформлены іск даводзіцца ўносіць дзяржпошліну, якую плаціць ісцец. Пасля прыняцця рашэння суда выдаткі кладуцца на вінаваты бок, аднак растучае беспрацоўе ўносіць свае карэктывы.

Цяпер тут заканчваюць афармляць справы на даўжнікоў, якія не плацяць з сакавіка 1994 года. Сумы іскаў дасягаюць сямі-дзесяці мільёнаў. Аднак атрымаць гэтыя грошы фірме ўдаецца вельмі рэдка. Паслугамі пракату карыстаюцца ў асноўным маламаёмныя, і сёння суды ў іх адрас нярэдка выносяць рашэнні аб немагчымасці спагнання грошай у сувязі з тым, што адказчык у даны момант не працуе і маёмасць, якая належыць вопісу, у яго адсутнічае. Іск вяртаецца фірме без выканання, а дзе ў гэты час знаходзіцца тэлевізар, халадзільнік ці палатка, што належаць фірме, ведае толькі Бог ды сам кліент. У выніку ўсіх гэтых перыпетый фірма становіцца бяднейшай не толькі на ўкрадзеную ў яе рэч, але і на судовыя выдаткі, якія даводзіцца аплачваць самім.

Сёння інтарэсы прадпрыемства пракату заканадаўча не абаронены, і ўзятая на нейкі тэрмін нядобрасумленным чалавекам рэч плаўна пераходзіць у яго ўласнасць. Без волі кліента ўзяць яе назад практычна немагчыма. Пэўную ролю ў гэтым адыгрывае і наш непаўторны менталітэт. Не можа зразумець выгадаваны на глабальнай дармаўшчыне грамадзянін, чаму ён павінен аддаваць каляровы тэлевізар, калі заплаціў за яго кроўныя дзвесце тысяч і тройчы выцер з яго пыл. Работнікі пракату заўважылі цікавую заканамернасць: калі кліент не плаціў за рэч некалькі месяцаў, то нават калі ў яго потым з'яўляюцца грошы, ні добраахвотна аддаваць доўг, ні плаціць далей ён не будзе. І атрымліваецца, што даход прыносяць толькі 50 працэнтаў тэлевізараў, і пракат становіцца заложнікам у сваіх нядобрасумленных кліентаў. Але неплацельшчыкі — не адзіная праблема "Белрадыётэхнікі". Вельмі высокая арэндная плата вылічваецца ў доларавым эквіваленце, курс пастаянна расце, а павялічваць цану за пракат, каб пакрыць гэтыя выдаткі, нельга.

Нягледзячы на ўсе складанасці сённяшняга стану, пракату вясельных сукенак, на шчасце, прагарэць не пагражае. Дарэчы, цікавая дэталь: асобае развіццё атрымала паслуга, якой чалавек карыстаецца адзін-два разы ў жыцці. Жадаючых набыць вельмі дарагі ўбор, які будзе надзеты ўсяго адзін раз, сёння не так ужо многа, і таму попыт тут вельмі ўстойлівы. Аднак, калі глядзіш на доўгі спіс фірм, якія прапаноўваюць апрануць нявесту, ствараецца ўражанне, што іх значна больш, чым тых, хто жадае ўзяць шлюб. Тым не менш, у "Юноне", адным з самых-самых "старых" вясельных салонаў у рэспубліцы, на адсутнасць кліентаў не скардзяцца. Кліентам прапаноўваюцца як імпартныя мадэлі, так і сукенкі, пашытыя на месцы па замежных каталогах. Пры фірме працуюць мадэльер, закройшчык, швачкі, якія хутка падгоняць сукенкі па фігуры. Убор выдаецца на чатыры дні, цэны разлічаны на ўсе слаі насельніцтва. 15 долараў за пракат прыгожай сукенкі, бадай, можна лічыць дабрачыннасцю. Кошт пракату элітнай сукенкі "Юнона" складае 200 долараў. Дарэчы, 200—250 долараў за трохдзённую арэнду вясельнага ўбору — практычна максімальная цана, якую просяць у Мінску. Пры гэтым большасць салонаў бясплатна прапаноўваюць вэлюм, пальчаткі, біжутэрыю і іншыя аксесуары.

Пераважная большасць вясельных салонаў размешчана ў кватэрах. Арандаваць іншае памяшканне сёння не па кішэні амаль нікому. Салон "Юнона", які мае філіялы ў іншых гарадах Беларусі, у бліжэйшы час збіраецца закрываць магілёўскае аддзяленне з-за немагчымасці аплаціць арэнду памяшкання ў мясцовым Палацы культуры. Зразумела, што мінскія цэны за квадратны метр яшчэ менш садзейнічаюць развіццю бізнесу.

Яшчэ адна паслуга, што прапаноўваецца сёння, — пракат вячэрніх і святочных сукенак. Гэта дазваляе, не трацячыся на дарагія ўборы і аксесуары, пастаянна выглядаць модна і элегантна. Дарэчы, на Захадзе вельмі развіты пракат каштоўнасцяў, якім ахвотна карыстаюцца кіназоркі, багатыя людзі і простыя смертныя. У нас жадаючых рызыкнуць пакуль не знайшлося, што ж тычыцца адзення, то, калі вельмі пастарацца, сукенку на вечар знайсці можна, хаця выбар не такі ўжо і вялікі, а на туалетах зашмат бліскавак і пацерак. Бясплатна можна ўзяць біжутэрыю, сумачкі і іншыя аксесуары, за асобную плату вам прапануюць натуральнае футра.

Пракат аўтамабіляў — справа не новая. Аднак, калі ў былыя часы гэтая паслуга была манапольным правам дзяржавы, то сёння ў Беларусі яе аказваюць толькі прыватныя фірмы. У Мінску цяпер знаходзяцца прадстаўніцтвы дзвюх вядомых у свеце пракату аўтамабіляў фірм — "Europcar і "AWIS". Абедзве фірмы працуюць на беларускім рынку ўжо тры гады. Машына можа прадастаўляцца як з вадзіцелем (дарэчы, нават які гаворыць на англійскай мове), так і без яго, хаця кліенты лічаць за лепшае, як гэта прынята ва ўсім свеце, абыходзіцца ўласнымі сіламі. Тым не менш, улічваючы мясцовую спецыфіку, некаторыя не рызыкуюць у нашай краіне садзіцца за руль самастойна.

Асноўныя кліенты гэтых фірм — замежныя бізнесмены, прадстаўнікі дыпламатычных служб, міжнародных арганізацый і фондаў. Машыны заказваюць для абслугоўвання замежных дэлегацый, у выпадку неабходнасці прадстаўнікі фірмы могуць сустрэць у аэрапорце гасцей і прывезці іх у горад. У аэрапорце "Мінск-2" фірмы маюць свае бюро, каб кліент, які прыбыў у Беларусь, мог узяць машыну непасрэдна там. Карыстаюцца аўтамабілямі і нашы грамадзяне, праўда, значна радзей з-за досыць высокіх цэн.

Попыт на пракат аўтамабіляў ва ўсім свеце традыцыйна ўзрастае ў час летніх водпускаў, але паколькі турыстычнай Мекай нашай радыеактыўнай рэспубліцы стаць, відаць, не пагражае, пік попыту на паслугі фірм пракату прыпадае на вясну і восень.

Базавая цана на пракат аўтамабіляў досыць высокая, і ў абедзвюх фірмах складае каля ста долараў у суткі. Праўда, існуе цэлая сістэма скідак, якая дазваляе яе значна знізіць. Іншаземцы расплачваюцца, як правіла, крэдытнымі карткамі, айчынныя арганізацыі — рублямі па міжбанкаўскаму курсу.

Для аматараў шыкануць у Мінску існуе пракат лімузінаў. Да паслуг жадаючых — дзевяціместныя "Лінкольн-стрэтч" і "Кадзілак-броган". У машынах ёсць барная стойка, тэле-, відэаапаратура і сотавы тэлефон. Задавальненне адчуць сябе амерыканскім гангстэрам каштуе 20 долараў за гадзіну, для вясельных цырымоній арэнда лімузіна цягне на 40 долараў.

Уласна, становішча спраў у фірмах па пракату аўтамабіляў можна з поўным правам лічыць барометрам дзелавой актыўнасці ў рэспубліцы, бо іх кліенты — гэта замежныя бізнесмены, багатыя дзелавыя людзі. Па прызнанню супрацоўнікаў абедзвюх фірм, у 1994—1995 гадах кліентаў было значна больш. Тады Беларусь яшчэ прадстаўляла інтарэс для замежных інвестараў, яны ахвотна сюды прыязджалі, адкрывалі прадстаўніцтвы, засноўвалі фірмы. Цяпер жа назіраецца рэзкі спад дзелавой актыўнасці і цікавасці да нашай краіны. І сёння, калі супрацоўнікі пракатных агенцтваў звоняць сваім пастаянным кліентам, то нярэдка чуюць у адказ, што фірма сваю дзейнасць у Беларусі згарнула і перабралася ў краіны з больш спрыяльным палітычным і дзелавым кліматам. Такім чынам, трапіўшы ў новыя эканамічныя ўмовы, пракат шукае новыя формы выжывання. Калі раней паспяховае існаванне гэтай сферы забяспечваў традыцыйны савецкі дэфіцыт, то сёння даводзіцца прыкладваць немалыя намаганні, каб зацікавіць кліентаў. Асабліва складана гэта зрабіць у Беларусі, дзе ў сілу таго, што ў насельніцтва адсутнічаюць сродкі для аплаты самых неабходных паслуг, прапанова значна перавышае попыт.

**Веранiка ЧАРКАСАВА.**

ХХ З'ЕЗД КПСС І МІКІТА ХРУШЧОЎ

# ТАЯМНІЧЫ ДАКЛАД

**Прайшло больш за сорак гадоў пасля ХХ з'езда КПСС, апошні дзень якога — 25 лютага 1956 года крута змяніў жыццё нашай краіны. Да гэтага часу не сціхаюць спрэчкі гісторыкаў вакол даклада М. Хрушчова на закрытым пасяджэнні. Адны ставяць яго ў заслугу Мікіце Сяргеевічу. Іншыя вінавацяць яго: сваім дакладам ён нанёс па камуністычнай сістэме жудаснай сілы ўдар. Гавораць і пра яго "нябачанае вераломства", быццам даклад літаральна за некалькі дзён да абвяшчэння тайна ад членаў Прэзідыума ЦК быў карэнным чынам перапрацаваны і абвешчаны насуперак ранейшай дамоўленасці з саратнікамі.**

### НАВОШТА!

Сёння многія ўжо даўно не захапляюцца дакладчыкам. І не таму, што яго таксама "развянчалі", прыклеіўшы розныя ярлыкі і прагнаўшы на пенсію. Не, проста таму, што ён многа гадоў быў у "камандзе", якую ўзначальваў Сталін, і не мог не ведаць пра злачынствы, што рабіліся, пераступаючы праз рэкі і ручайкі крыві, якая разлівалася па краіне. Няхай з закрытымі вачыма, але пераступаў.

Многія ўжо бачылі фатаграфіі дакладчыка, зробленыя ў трыццаць сёмым. Яго даклады на пленумах МК ВКП(б) аб выніках чарговага пленума ЦК з "выкрыццём" чарговай групы ўжо расстраляных суправаджаліся фатаграфіямі: чыстая фізіяномія, што выклікае давер, простая кашулька, пінжачок пад чалавека з народа.

Сёння гавораць: патрабавалася немалая мужнасць, каб выступіць тады з такім дакладам. З гэтым нельга не пагадзіцца. Хрушчову было ўжо больш за шэсцьдзесят, але ён яшчэ не страціў байцовых якасцей, гэта быў загартаваны воін-прафесіянал, падрыхтаваны і абучаны папярэднім сваім жыццём да рашаючага паядынка. Яму ўжо ўдалося "скруціць" шыю аднаму са сталінскіх катаў — Берыі. Але ў зале з'езда сядзела яшчэ мноства верных сталінскіх паплечнікаў, а ў прэзідыуме — Варашылаў, Кагановіч, Малянкоў, Мікаян, Молатаў, Швернік і іншыя. І гэта былі не цені мінулага, гэта таксама былі байцы, якія прайшлі самы жорсткі адбор сталінскай селекцыяй, — "правадыр" ад слабых збаўляўся ўзмахам рукі, слабыя маглі падвесці яго ў цяжкую мінуту, асабіста ён меў права на слабасць (успомніце чэрвень 1941-га), але тыя, хто знаходзіўся побач з ім, — не...

М. Хрушчоў добра ўсё пралічыў і разумеў: гэтыя людзі чакаюць толькі ўдалага імгнення, каб расправіцца са Сталіным. Да таго ж ён баяўся магутнай і непрадказальнай у сваіх дзеяннях сілы, штаб якой размясціўся на Лубянцы.

І была яшчэ адна крыніца наймацнейшай небяспекі, ліквідаваць якую было немагчыма: народ, краіна. Краіна ўжо прачнулася, і гэта была не адліга, як вызначаў тады Ілья Эрэнбург, гэта было нешта накшталт пахмелля з чужога крывавага шалу. Людзі сталі выходзіць з "зоны", якой была ўся краіна, пасля шматгадовай нематы і глухаты яны зразумелі, што таксама могуць гаварыць і чуць, і загнаць іх зноў у зону, асляпіць, аглушыць, вырваць языкі — такое было ўжо нікому не пад сілу.

Мікіта Хрушчоў быў вопытным апаратчыкам і партыйным лідэрам, сам арганізоўваў у трыццаць сёмым стотысячныя мітынгі на Чырвонай плошчы пасля працэсаў над чарговай "агіднай бандай забойцаў, здраднікаў, наймітаў" і ведаў, што людзей лёгка вывесці на вуліцы, але загнаць іх назад у камуналкі, да талерак з поліўкай вельмі складана, а часам і немагчыма.

Да ХХ з'езда ў краіне ўжо было многае вядома аб злачынствах Сталіна, з лагераў вярталіся пакуль дзесяткі і сотні людзей, якія яшчэ са страхам, але пачыналі гаварыць. Ды і гіганцкая прапагандысцкая машына стала даваць збоі.

І была яшчэ партыя, якая да таго пераломнага года аказалася зусім не такой, як пры Сталіне. Па традыцыі было прынята ўсіх камуністаў дзяліць па партыйнаму стажу. Мікіта Хрушчоў умеў лічыць інакш: ён бачыў, што касцяк, асноўную масу камуністаў цяпер складаюць тыя, хто ўступаў у партыю пад кулямі ў вайну — уступаў ідэйна і пераканана. Ці атрымліваў партбілет у пасляваенныя гады — гэтых, што падрасталі пад парахавым дымам і на супчыках з крапівы, таксама спалохаць было складана. Увогуле ж пасля эпохі лагераў ды агню вайны мала хто баяўся смерці.

Але гэта факт — рамантыкі (ці фанатыкі) рэвалюцыі згнілі ў лагерах, палі на франтах, а на іх месца прыйшлі тыя, хто, знішчаючы фашызм, прарваўся ў Еўропу, прывык рызыкаваць, змагацца. І яшчэ тыя, чыё дзяцінства таксама прыпала на вайну...

І ўсе яны, зведаўшы і пераўжыўшы вялікі прыліў гордасці за перамогу, хацелі цяпер жыць па-чалавечы. А гэта магло азначаць толькі адно — новы шлях.

Ён чакаў, што сустрэне жорсткае супраціўленне сталіністаў, яно было. Ён спадзяваўся на падтрымку большасці грамадства, і ён яе атрымаў.

### ЯК ГЭТА БЫЛО!

У 50-я гады прабівала сабе дарогу, перш за ўсё праз жывых сведкаў, вернутых у грамадства, сапраўдная жорсткая праўда аб часах і дзеяннях Сталіна і яго акружэння. Усё больш востра паўставала пытанне аб прамым віноўніку, аб асабістай адказнасці за ўчыненыя беззаконні. Прытрымлівацца і далей "фігуры замоўчвання" было ўжо немагчыма без рызыкі палітычнай кампраметацыі кіраўніцтва. Прамое выкрыццё культу Сталіна станавілася неадкладнай набходнасцю.

Узнікшую сітуацыю правільна зразумеў і ацаніў М. Хрушчоў. Пазней ён запісаў у сваіх успамінах: "Гэтыя пытанні выспелі, і іх трэба было ўзняць. Калі б я іх не ўзняў, іх узнялі б іншыя. І гэта было б гібеллю для кіраўніцтва, якое не прыслухоўвалася да голасу часу".

Прапанова аб правядзенні закрытага пасяджэння з'езда і выступленні на ім М. Хрушчова з дакладам "Аб культе асобы і яго выніках" была зроблена Прэзідыумам ЦК КПСС 13 лютага 1956 года, і ў гэты ж дзень Пленум ЦК прыняў гэтую прапанову.

Яшчэ ў 1954—1955 гадах працавалі розныя камісіі па перагляду спраў неабгрунтавана абвінавачаных і незаконна рэпрэсіраваных савецкіх грамадзян. Многія рэабілітацыі праходзілі ў індывідуальным парадку. Напярэдадні з'езда, 31 снежня 1955 года, Прэзідыум ЦК КПСС утварыў камісію для вывучэння матэрыялаў аб масавых рэпрэсіях членаў і кандыдытаў у члены ЦК ВКП(б), абраных XVII з'ездам партыі (устаноўлена, што з 139 членаў і кандыдатаў у члены ЦК было расстраляна ў 1937—1938 гадах 98 чалавек. — **І. К.**)

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ТАЯМНІЧЫ ДАКЛАД

**(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.).**

Матэрыялы гэтай камісіі леглі ў аснову даклада "Аб кульце асобы і яго выніках". Праект даклада ў першай яго частцы (да канца 30-х гадоў) быў падрыхтаваны П. Паспелавым. Мяркуючы па ўсім, даклад рыхтаваўся паспешна, хутчэй за ўсё, ужо ў ходзе з'езда.

Мала хто з дэлегатаў XX з'езда КПСС уяўляў, што іх чакае на ранішнім закрытым пасяджэнні 25 лютага 1956 года. Для большасці прысутных у зале даклад М. Хрушчова стаў поўным адкрыццём і зрабіў уражанне бомбы, што разарвалася.

Тут няма патрэбы перадаваць даклад, ён цяпер шырока вядомы (апублікаваны ён быў праз 33 гады пасля XX з'езда ў 1989 годзе. — **І. К.**). Да таго ж мы цяпер ведаем пра час сталіншчыны значна больш, чым было вядома самому Хрушчову. Звернем увагу толькі на некаторыя моманты.

Асобае значэнне мела выкрыццё сталінскай формулы "вораг народа". Гэты тэрмін, гаварыў Хрушчоў, адразу вызваліў ад неабходнасці важкіх доказаў ідэйнай неправаты чалавека ці людзей, з якімі ты вядзеш палеміку: ён даваў магчымасць усякага, хто ў нечым не згаджаўся са Сталіным, хто быў западозраны ў варожых намерах, усякага, на каго быў узведзены паклёп, падвергнуць самым жорсткім рэпрэсіям.

Трэба сказаць, што ў дакладзе дадзена ў асноўным старая (па "Кароткаму курсу") ацэнка ідэйна-палітычнай барацьбы ў партыі і ролі ў ёй Сталіна. Што тычыцца адказнасці за рэпрэсіі, то роля Сталіна ў стварэнні рэжыма палітычнага тэрору раскрыта ў дакладзе досыць поўна. Аднак прамы ўдзел у палітычным тэроры паплечнікаў Сталіна і сапраўдныя маштабы рэпрэсій засталіся "за кадрам". Можна зразумець і Хрушчова, ён не быў гатовы да працістаяння большасці членаў Прэзідыума ЦК, тым больш, што і сам доўгі час належаў да гэтай большасці.

Даклад яго быў вельмі эмацыянальны, месцамі ліхаманкавы. Іншыя месцы, адкрыцці ўзрушылі слухачоў. Такі гэта быў чалавек, Мікіта Хрушчоў, самародак, што б потым яго сябры і ворагі ні гаварылі. У дакладзе названа нямала фактаў, прозвішчаў, падзей. Але ўсё гэта, паводле Хрушчова, аказалася магчымым толькі таму, што парушаны былі ленінскія прынцыпы партыйнага жыцця, а Сталін сканцэнтраваў у сваіх руках неабмежаваную ўладу. Але гэта быў не адказ на пытанне: а чаму такое стала магчымым?

Для таго каб нешта вырасла, узмацнела, патрабуецца глеба, асяроддзе. М. Хрушчоў абмінуў гэтыя пытанні, ён зноў і зноў клеймаваў культ і кланяўся сістэме... Ён не "здрадзіў" ні паўсловам у дакладзе бліжэйшым падручным Сталіна, яны сядзелі побач, гэта потым ім стала, мякка кажучы, нядобра.

...Сядзелі побач за пяць крокаў ад дакладчыка тыя, хто дзесяцігоддзямі гвалціў краіну, чые подпісы захаваліся пад мноствам "расстрэльных спісаў"...

Старое, як пісаў адзін літаратурны класік, пачыналася спачатку... Трагедыя адбылася, у праграме на будучыню быў фарс...

У дакладзе днём з агнём не знойдзеце паняццяў "дэмакратыя", "шматпартыйнасць" і многіх іншых, без якіх немагчымае свабоднае жыццё чалавека і грамадства. Да таго ж увесь даклад быў пабудаваны так: разбурыўшы культ Сталіна, узняць на больш высокі п'едэстал Леніна. Вось вывад, які можна зрабіць з новага прачытання даклада: Мікіта Хрушчоў прапаноўваў ісці... сталінскім шляхам, але без Сталіна і, вядома, без яго тэрору, лагераў і ўвогуле без лютасці.

Безумоўна, даклад М. Хрушчова на з'ездзе быў для яго момантам ісціны і перамогай. Паражэнне пачалося ўжо на наступны дзень, калі ў інфармацыйным паведамленні ні слова не было пра тое, што з'езд заслухаў гэты даклад. Пазней у друку была апублікавана пастанова "Аб кульце асобы і яго выніках", а даклад разасланы для чытання камуністам і камсамольцам. Так дагаварыліся. Менавіта дагаварыліся...

**ГЭТА БЫЎ КАНЕЦ
ЦІ ПАЧАТАК!**

Буду сцвярджаць, што культу асобы не магло не быць, ён быў немінучы для партыі, якая пачала барацьбу за ўладу ва ўмовах падполля, праследаванняў, строгай канспірацыі, жорсткай рэгламентацыі любых дзеянняў, безаглядней падпарадкаванасці загаду.

Гавораць, што ў Расіі заўсёды была цяга да культу, да пакланення царам, манархам, там вытокі. Годзе! У Расіі вялікіх князёў і цароў душылі падушкамі і петлямі, у іх стралялі, кідалі бомбы, і ўся імперыя радавалася, калі Мікалай Раманаў адрокся ад прастола. Не, чаго-чаго, а традыцый культу асобы ў Расіі не было, хутчэй наадварот...

Дзеля аб'ектыўнасці ўспомнім усё-такі, што ў рэвалюцыю, грамадзянскую вайну і пасля яе стаў зараджацца і мацнець не культ асобы (пра Леніна тут размова не ідзе), а культ "правадыроў" — ад сусветнага да паветовага маштабаў. Адны былі правадырамі сусветнага пралетарыяту, іншыя — Чырвонай Арміі (Леў Троцкі), цяжкай прамысловасці (Сярго Арджанікідзе), чыгуначнікаў (Лазар Кагановіч), трэція — "правадырамі" працоўнага люду якой-небудзь Рудабелкі...

Сталін многіх разнамасных "правадыроў" вынішчыў, іншых запрог у сваю калясніцу. Аб ідэйных рознагалоссях у мінулым ён успамінаў толькі тады, калі загадваў знішчыць, а так у ход ішлі і меншавік Вышынскі, і іншыя, іншыя.

Многае дае падставу думаць, што Мікіта Хрушчоў вымушаны быў спыніцца ў сваёй крытыцы культу асобы на паўдарозе. І гэтая палавінчатасць адыграла нядобрую службу краіне. Іншымі словамі, на XX з'ездзе і пасля яго культ быў выкрыты, але яго ідэалогія працягвала праца ці ўскосна ўплываць на ўсё наша жыццё, часам вельмі нечакана.

Калі б тое, што зроблена ў апошнія гады па аднаўленню справядлівасці, гістарычнай праўды, увекавечванню памяці ахвяр тэрору, было зроблена тады, адразу пасля XX з'езда! Але Мікіта Хрушчоў не мог усяго гэтага зрабіць: ён быў сынам свайго часу.

Да канца ці напалавіну, але сваю справу Мікіта Сяргеевіч зрабіў. І таму, нягледзячы на ўласцівую яго характару неардынарнасць, непрадказальныя дзеянні і рэкамендацыі ў наступныя за XX з'ездам гады, у народзе яго ўспамінаюць з павагай. Ён першым паставіў дыягназ смяротна небяспечнай хваробы, а на вылечванне ад яе ўжо не хапіла сіл і рашучасці. І калі да яго вядомыя дзеячы партыі часта станавіліся ахвярамі культу асобы, то ён стаў ахвярай яго вынікаў.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**



*ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ*



**Інжынер Вілейскага камбікормавага завода Таццяна ПЛЮСКІНА**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## У. БОРЗАБАГАТЫ — АДНАДУМЦА Кастуся КАЛІНОЎСКАГА

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

Вынікі аказаліся добрымі. Цар прыслаў графа П. Шувалава праверыць, ці так гэта. Пераканаўшыся ў паспяховасці лячэння, шэф рускіх жандараў выказаў падзяку ўрачу-эмігранту і паабяцаў пратэкцыю ў выпадку вяртання на радзіму. Ён жа бачыў магчымасць вярнуцца ў Расію толькі пры ўмове, што яму будзе дазволена пасяліцца ў Награудку. А яшчэ запатрабаваў дазволу выдаваць часопіс. На гэта, вядома, шэф жандараў не згадзіўся.

Ад заслужанай матэрыяльнай узнагароды У. Борзабагаты ўсё ж не адмовіўся. Жонка Бутава за чатырохмесячнае лячэнне мужа заплаціла ўрачу 700 рублёў. Гэты ганарар на нейкі час вывеў эміграцкую сям'ю з крызіснага стану.

Знаходжанне У. Борзабагатага ў Францыі супала з важнымі падзеямі ў яе гісторыі. У ліпені 1870 года пачалася вайна з Прусіяй. Многія эмігранты прынялі ўдзел у бітвах на баку Францыі. Калі войскі Прусіі наблізіліся да Парыжа, У. Борзабагаты таксама апрануў ваенны мундзір. Разам з французамі яму давялося зведаць горыч ваенных няўдач і адступлення.

У час асады Парыжа ён як урач 4-га лятучага батальёна на працягу чатырох месяцаў аказваў на полі бою медыцынскую дапамогу гвардзейцам, мёрз і галадаў з імі ў акопах. У студзені 1871 года пасля заключэння міру ён вышаў у адстаўку. На ўрачыстым праводзе свайго доктара сабраўся ўвесь батальён. За добрасумленную службу адстаўны капрал атрымаў падзяку камандавання з абвяшчэннем у дзённым загадзе і занясеннем яго прозвішча ў кнігу генеральнага штаба. З-за сціпласці Уладзіслаў Канстанцінавіч уголас адмовіўся перад батальёнам ад медапёў і крыжоў. Паколькі ён вызначаўся ў час вайны, яму давалася магчымасць прыняць французскае падданства. І гэту прывілею ён не выкарыстаў, таму што заўжды думаў аб вяртанні на радзіму.

18 сакавіка 1871 года была абвешчана Парыжская камуна. Звергнуты ўрад і яго прыхільнікі схаваліся ў Версалі. Лепшыя прадстаўнікі з ліку дэмакратычна настроеных эмігрантаў усрынялі Камуну як сваю асабістую справу.

У. Борзабагаты не толькі вітаў перамогу народнай рэвалюцыі, а калі версальцы пры падтрымцы прусакаў пачалі наступленне на Парыж, ён уступіў у Нацыянальную гвардыю. Уладзіслаў Канстанцінавіч стаў адным з паплечнікаў праслаўленага генерала Валерыя Урублеўскага, якому кіраўніцтва Камуны даверыла камандаванне войскамі левага фланга.

У. Борзабагаты, як галоўны ўрач пры штабе В. Урублеўскага, вялікую ўвагу надаваў арганізацыі медыцынскага абслугоўвання камунараў. Рабіць гэта было не так проста, таму што абараняемы ўчастак фронту быў найбольш небяспечным, тут у красавіку—маі няспынна ішлі жорсткія баі.

Свой шпіталь Уладзіслаў Канстанцінавіч умела размясціў у форце Ісі, які з 25 красавіка знаходзіўся пад артылерыйскім абстрэлам. Тут заўсёды набіралася шмат параненых, і яму даводзілася працаваць як хірургу.

У гэты час з ім здарылася незвычайная прыгода, з-за якой ён ледзь не трапіў на той свет. У адзін з красавіцкіх дзён ён пайшоў у булачную купіць чаго-небудзь для дзяцей. Пры гэтым надзеў памылкова старую шапку з нумарам 4-га батальёна, у якім раней служыў. Нядаўна гэты батальён знік з Парыжа і накіраваўся ў Версаль, дзе перайшоў на бок звергнутага ўрада. Гэтага Уладзіслаў Канстанцінавіч не ведаў. Злашчасная шапка стала падставай для арышту. Камунары палічылі яго версальскім агентам і хацелі расстраляць. Выратавала толькі заступніцтва В. Урублеўскага, які паручыўся за паплечніка і земляка.

Пасля падзення Камуны пачаўся жорсткі тэрор супраць яе ўдзельнікаў. Было расстраляна, выслана на катаргу, пасаджана ў турмы, эмігравала каля 110 тысяч чалавек. Не ўдалося пазбегнуць арышту і У. Борзабагатаму. Як урач, ён не мог пакінуць параненых і толькі ў апошні момант паспрабаваў уцячы праз прускія лініі, але быў злоўлены. Яго адправілі ў Версаль, дзе кінулі за краты.

У турме з палонных жорстка здзекаваліся, не шкадавалі нікога. На працягу сямі тыдняў чакаў Уладзіслаў Канстанцінавіч чаргі на допыт. Адночы ён не вытрымаў здзекаў і, каб пазбыцца пакут, пачаў патрабаваць расстрэлу для сябе. Такі выбух абурэння быў палічаны вар'яцтвам. Палоннага накіравалі ў псіхіятрычную бальніцу, дзе ён знаходзіўся некалькі месяцаў. Гэта і выратавала яму жыццё. Уладзіслаў Канстанцінавіч быў асуджаны на некалькі месяцаў катаржных работ на галерах.

У верасні 1871 года У. Борзабагаты выйшаў на волю і зноў прадоўжыў медыцынскую практыку ў Парыжы. Потым, каб быць бліжэй да радзімы, у маі 1872 года пераехаў у Кракаў. Жонка і дзеці яшчэ нейкі час заставаліся ў Парыжы.

Кракаў для выгнанніка быў доўгім і нялёгкім раздарожжам. З-за матэрыяльных цяжкасцей давялося пасяліцца ў падвальным памяшканні. На ўладкаванне на працу па спецыяльнасці надзеі было мала. Мясцовыя ўрачы ставіліся да яго як да канкурэнта і ўсялякімкнуліся выселіць з горада. Не грэбавалі нават даносамі. За недазволеную практыку 24 мая 1873 года паліцыя спрабавала прыцягнуць яго да адказнасці. Праўда, суда ўдалося пазбегнуць, і справа была спынена. На працягу двух гадоў давялося жыць Уладзіславу Канстанцінавічу на выпадковыя заробкі. У кастрычніку 1874 года ў Кракаў прыехала жонка з дванаццацігадовым сынам Уладзіславам. Пятнаццацігадовая дачка Веранічка засталася ў Парыжы для заканчэння вучобы ў пансіёне. На сямейнай радзе вырашылі вяртацца на радзіму. Для былога паўстанца гэта было рызыкоўна. Царскія жандары яшчэ не забыліся, які прысуд яму вынесены.

Давялося прасіць садзейнічання ў графа П. Шувалава, які абяцаў калісьці паспрыяць пры вяртанні з эміграцыі. Вылечаны ад маніі вялікасці царскі сановнік У. Бутаў адчуваў сябе цудоўна, і шэфу жандараў нічога не засталося, як выканаць сваё абяцанне.

Запэўнены яшчэ раз у дапамозе, былы паўстанец 4 лістапада 1874 года здаўся на заходняй граніцы рускім уладам. Пад канвоем яго даставілі ў Вільню і змясцілі ў вядомы бастыён № 14 цытадэлі на вуліцы Антакальскай, праз які пасля падаўлення паўстання прайшлі многія яго ўдзельнікі. Новага зняволенага зарэгістравалі пад нумарам 2 477.

Пачаліся доўгія і цяжкія дні чакання. Вялося следства. Аднак аб пакаранні смерцю гаворкі ўжо не ўзнікала: дапамагла пратэкцыя даўняга пацыента. Справа разглядалася ваенным судом 1 красавіка 1875 года. Прысуд быў суровы: "Дворянина Владислава Борзобогатого лишить всех прав состояния и сослать в каторжные работы в рудниках на 20 лет, но во внимании к смягчающим обстоятельствам определить наказание: лишение особых прав и преимуществ и посылке на житье в Томскую губернию, с воспрещением отлучки с места жительства в течение двух лет и на въезд в другие губернии в области Сибири в течение четырех лет".

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 7—9.**

## НАРОДНЫ ЛЕКАР ГАННА НАЛАПКА

# ДА СВЯТЛА — ПРАЗ ПАКАЯННЕ

Неяк у аўтобусе мне міжволі давялося падслухаць размову. Вельмі малады жаночы голас расказваў аб напасцях, якія раптам зваліліся на яе сям'ю: маці трапіла ў бальніцу, нехта са сваякоў — у аўтакатастрофу, брата пакінула жонка, у самой ад праблем галава кружыцца... Пасля нядоўгага маўчання голас, набыўшы рэзкія ноткі, нечакана заключыў, што ўсе няшчасці зваліліся нездарма, і ўсё гэта ёсць не што іншае, як сурокі, якія нехта "зрабіў" яе сям'і, а таму трэба хутчэй ехаць да бабкі, якая зніме гэтае насланнё і адашле таму, хто гэта зрабіў.

Выходзілі мы на адным прыпынку, і мне ўдалося разгледзець з густам апранутых дзвюх вельмі маладых, гадоў 22 дзяўчат. Тое, што маладая дзяўчына сабралася шукаць ратунку ў бабкі і такім чынам вырашыць праблемы, уразіла мяне да глыбіні душы і адначасова азадачыла: чаго ж у такім выпадку чакаць ад старэйшага пакалення. Успомніць пра гэты выпадак мне давялося даволі хутка, калі ў час водпуску нагода звяла мяне з такой "бабкай". Сказаць па праўдзе, па ўзросту Ганна Налапка ніяк на такі "тытул" не цягне, а таму называюць яе ў Слуцку хто экстрасэнсам, хто — біяэнергакарэктарам, а хто — народным лекарам.

Ганне крыху больш за трыццаць, аднак танклявасць яе фігуры, капа непаслухмяных светлых валасоў, вельмі мілы і заўсёды добразычлівы выраз твару робяць яе аблічча зусім юным. Цяжка ўявіць, што гэта маленькая жанчына некалі ўступіла ў схватку з "нячыстай сілай" у доме ў Крупках, дзе спачатку проста прападалі, а потым самі сталі загарацца рэчы дзесяцігадовай дзяўчынкі. Два гады назад аб гэтай "чартаўшчыне" многа пісалі амаль усе беларускія газеты, аднак пасля таго, як Ганне ўдалося перамагчы "нячысцікаў", усё вельмі хутка забылася.

Нарадзілася Ганна ў лясной вёсачцы Докшыцкага раёна. Яе бабуля была "шаптухай", а таксама лячыла травамі. Яна і дала сваёй унучцы першыя ўрокі пазнання свету, адкрыла першыя сакрэты лячэння травамі і словам. Перад смерцю бабуля хацела перадаць унучцы ўсе свае сакрэты. Аднак Ганна, якой было тады ўсяго пятнаццаць, відаць, з-за малалецтва адмовілася. Аб прарочых словах сваёй бабулі, што, пазнаўшы жыццё, прайшоўшы праз боль і пакуты, ёй усё роўна давядзецца заняцца лячэннем іншых людзей, Ганна ўспомніла праз многа гадоў, калі ўрачы, і слуцкія, і мінскія, "спісалі" яе дадому паміраць. Гэта здарылася пасля нараджэння другога дзіцяці. Нечакана хваробы атакавалі з усіх бакоў. Неўзабаве яна злегла і не магла ўжо хадзіць. Аб тым, як баліць кожны орган, ведае не з чужых слоў, паколькі ўвесь гэты боль зведала сама.

Калі ўрачы адмовілі ў дапамозе, муж Ганны вырашыў не здавацца і звярнуўся ўсё да тых жа бабак. Паглядзела на яе адна і кажа: "Калі на раду табе напісана іншых лячыць, дык ідзі і лячы, а не шукай дапамогі ў некага". Пасля гэтага кожную ноч у снах стала прыходзіць бабуля і гаварыць, што і як трэба рабіць. Былі і іншыя з'явы і прывіды, ад якіх чалавек са слабай псіхікай мог проста звар'яцець, але Ганну гэтыя дзівацтвы прымусілі толькі задумацца і многае перагледзець у сваім жыцці. Вельмі хутка да яе прыйшла жанчына з хлопчыкам, у якога быў зоб трэцяй ступені, і са слязамі стала маліць аб дапамозе. Можна ўявіць недаўменне Ганны, якая сама толькі стала пакрысе папраўляцца. Аднак менавіта таму, што сама прайшла праз боль і пакуты, шчыра жадаючы дапамагчы, яна не змагла адмовіць маці і рызыкнула паспрабаваць дапамагчы, выкарыстоўваючы "бабуліну методыку". Радасці і здзіўленню не было канца, калі пасля трох сеансаў дзіця ажыло, а неўзабаве ўрачы знялі дыягназ канчаткова.

У сваёй практыцы Ганна Налапка не абмяжавалася толькі бабулінымі сакрэтамі. Яна многа чытала спецыяльнай літаратуры, скончыла курсы кропкавага масажу, вучылася ў Міжнародным цэнтры эксперыментальнай парапсіхалогіі — тыбецкай школы бессмяротнасці. Да кожнага пацыента падыход у яе індывідуальны, а таму лячыць бярэцца не кожнага, рэальна ацэньваючы свае магчымасці і кіруючыся прынцыпам "не нашкодзь". Часам да яе звяртаюцца і з просьбай даведацца пра тых, хто прапаў, каб упэўніцца, жывыя яны ці не.

— Мне здаецца, калі ў грамадстве хаос, калі жыццё з дня на дзень пагаршаецца, то абвастраецца і вера ў ірацыянальнае. У сувязі з гэтым хачу спытаць, Ганна: хто вашы пацыенты — проста хворыя людзі, якія згубілі надзею знайсці дапамогу ва ўрачоў, ці тыя, хто чакае ад вас цуда, імгненнага звышнатуральнага вырашэння ўсіх праблем?

— Калі чалавека адолеў радыкуліт, то зразумела, што ён хоча хутчэй пазбавіцца ад непрыемных адчуванняў, звязаных з ім. Аднак вельмі многа прыходзіць людзей, як вы гаворыце, у чаканні цуду. У іншым выпадку вельмі многа залежыць ад адукацыі, адносінаў да самога сябе, умення аналізаваць свае ўчынкі. Даўно вядома, што душа і цела цесна ўзаемазвязаны. Калі ў вас нешта забалела, то гэта першы сігнал, каб задумацца, зазірнуць у сваю душу, перагледзець, што вы робіце не так. Для гэтага павінна быць, як мінімум, жаданне часам зірнуць на сябе збоку і, як максімум, неабходна высокае пачуццё адказнасці за свае ўчынкі і прыняцце адпаведнага рашэння.

Магчыма, я і памыляюся, але мне здаецца, што менавіта ў час катаклізмаў, калі людзі проста не могуць разабрацца ў тым, што адбываецца, у грамадстве таксама пачынаюць адбывацца дзіўныя рэчы.

Увогуле, вы заўважылі правільна. У час "вялікіх пераўтварэнняў" раз-пораз пачынаюць разбівацца самалёты, сыходзяць з рэек цягнікі, адбываюцца бясконцыя аўтакатастрофы, а бывае, пачынае загарацца тое, што ў звычайных умовах не гарыць, нават мокрыя прасціны, як у тым выпадку ў Крупках. Хто сочыць за навінамі, напэўна заўважыў, што асабліва ў Расіі, іншых так званых "гарачых кропках" кожны тыдзень здараецца нешта жудаснае. Тлумачыцца гэта даволі проста. У час, як вы гаворыце, катаклізмаў, калі людзі проста не паспяваюць адаптавацца да навязаных змен, іх пачынаюць захопліваць і адольваць самыя нізкія і прымітыўныя пачуцці. Злосць, нянавісць, зайздрасць, помста тады пануюць у грамадстве, і вобраз ворага пачынае блюзніцца паўсюль. У вялікай колькасці назапашваецца адмоўная энергія. Вынікі гэтага мы ўжо пералічылі, і яны павінны прымусіць людзей задумацца. Наша грамадства на сённяшні дзень вельмі хворае. Больш за ўсё мяне непакоіць, што ніхто нават не спрабуе разабрацца, знайсці першапрычыну ўсіх гэтых з'яў. Узяць хаця б той жа анамальны выпадак у Крупках. А Чарнобыль? А вайна ў Чачні? А перапоўненыя бальніцы і паліклінікі? А ўзрастаючая колькасць самагубстваў? Хіба гэта ўсё не сігнал трывогі?

— Магчыма, у вас ёсць гатовыя рэцэпты, як змяніць гэтае жыццё і грамадства да лепшага?

— Рэцэпт у аднолькавай ступені і просты, і складаны. Паколькі грамадства складваецца з індывідуумаў, то кожны і павінен пачаць са змянення свайго Я, перагледзець сваё жыццё, адносіны адзін да аднаго і пачаць нарэшце жыць па іншых законах маралі. Галоўнае — зразумець, што ўсё ў гэтым жыцці залежыць толькі ад цябе самога. Аднак не варта забываць, што да гэтага часу чалавек застаецца і самай вялікай тайнай прыроды. У ім схаваны вялікія патэнцыяльныя магчымасці, рэзервы і рэсурсы, аб якіх ён часам і не падазрае. На дэльфійскім храме ў старажытнай Грэцыі было напісана: "Чалавек, усё, што табе патрэбна, шукай унутры сябе". Паспрабую растлумачыць гэта простай мовай. У гэтым афарызме ключавое словаспалучэнне "што табе трэба", г. зн. кожны чалавек у гэтым жыцці мае права выбару: альбо ісці ўверх па шляху дабра і стварэння, альбо ўніз па шляху зла і разбурэння. Гэты выбар у многім абумоўлены каштоўнасцямі, якія пераважаюць у грамадстве.

Пакаянне — яшчэ адзін шлях да дасканаласці. Як толькі людзі задумаюцца, у якім грамадстве яны жывуць, чаму яны так жывуць, і, нарэшце, зададуцца пытаннем, што ж кожны з іх рабіў не так, яны самі абавязкова прыйдуць да пакаяння. І пакуль людзі не пакаюцца, не пачнуць рабіць нешта, каб змяніць сябе і сваё акружэнне ўсмешкай ці добрымі справамі, усё роўна, магчыма, для пабудовы цывілізаванага грамадства нам спатрэбіцца пяць-шэсць пакаленняў. Тут дарэчы ўспомніць аб працвітаючай цяпер Германіі, якая змагла пазбавіцца "ценю" Гітлера, толькі прайшоўшы праз пакаянне ўсяго нямецкага народа, усвядоміўшы, колькі гора гэтая асоба прынесла чалавецтву. Сёння зусім іншае нямецкае пакаленне ўжо плаціць даўгі за сваіх бацькоў, выдаючы кампенсацыю нашым грамадзянам — былым вязням той страшнай вайны, каючыся за грахі бацькоў і дзядоў і перасцерагаючы такім чынам будучыя пакаленні. Тое ж самае павінна адбыцца і ў нас. Дарэчы, на пачатку перабудовы даволі многа гаварылі аб пакаянні, але цяпер аб ім зноў забыліся. Да гэтага часу не ўсе рэпрэсіраваныя рэабілітаваны і тым больш ніхто з імі не расплаціўся за тыя мукі і пакуты, якія яны перажылі. Сёння зноў хочуць замяць справу аб Курапатах, нехта спрабуе выцягнуць з архіваў культ Сталіна. Пакуль наша грамадства не прыйдзе да разумення ўсеагульнага пакаяння, нас чакаюць наперадзе яшчэ суровыя выпрабаванні: хваробы, раскол грамадства, катастрофы, войны.

— Каб прыйсці да разумення пакаяння, наколькі я разумею, homo primigenius павінен прайсці шлях самапазнання, самаачышчэння і ператварыцца ў homo sapiens. Я дрэнна ўяўляю, як можна гэта ажыццявіць хутка ў грамадстве, дзе быць прыстойным, жыць па прынцыпах маралі проста нявыгадна.

— Перш за ўсё кожны павінен помніць, што рана ці позна за ўсе свае ўчынкі яму давядзецца адказваць. Да мяне прыходзіць вельмі шмат людзей. Як толькі ў каго што забаліць ці якія непрыемнасці, яны адразу пытаюцца: "За што?" Адказваючы на пытанне, адны спяшаюцца растлумачыць гэта нагаворам ці сурокамі, іншыя — збегам акалічнасцей. І тыя і другія часцей за ўсё памыляюцца. Нагаворы ці сурокі здараюцца, але не так часта — гэта падуладна толькі нямногім. Не варта ўсё звальваць і на выпадковасць: усё ў нашым свеце заканамернае. Кожны дзень Усявышні пасылае нам самыя розныя знакі: спыніся, маўляў, задумайся, што ты робіш. Для адных — гэта хваробы, для іншых — аўтакатастрофа, з якой выйшаў пакуль цэлым і здаровым, і г. д. І калі ты гэтыя знакі ігнаруеш, не заўважаеш, далей будзе горш, можа нават і лятальны канец. Пакуль чалавек не ўсведамляе сам, што яму трэба адпрацаваць за свае грахі, не спыніцца і не прааналізуе сваё жыццё спачатку па гадах, потым па месяцах і, нарэшце, не пачне адсочваць свой кожны дзень па гадзінах, "стукаць па галаве" яго будзе зноў і зноў. Адраджаць душу і жыць пастаянна ў гармоніі з самім сабой — гэта карпатлівая, вельмі цяжкая штодзённая праца, якая прыводзіць да разумення, што ўсё ў гэтым жыцці залежыць толькі ад цябе і толькі ты ёсць вяршыцель свайго лёсу.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**



## ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ



**Старшы сяржант Наталля КУЧЫНА — майстар па рамонту паветрана-дэсантнай тэхнікі.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## СЛОВА ПАДЗЯКІ

Паважаная рэдакцыя!

Нас, беларусаў, у Літве жыве нямала. Дзейнічаюць некалькі суполак, якія часта арганізуюць сустрэчы з навукоўцамі, пісьменнікамі, артыстамі і іншымі цікавымі людзьмі Беларусі і Літвы. Але ёсць сярод нас і такія суродзічы, якія рэдка ўдзельнічаюць у імпрэзах, бо некаторыя з іх старыя і хворыя, а некаторыя заняты працай і сем'ямі і не знаходзяць часу для сустрэч, што вельмі шкада.

А ў нас ёсць цяпер магчымасць добра пазнаёміцца са сваёй гісторыяй, з мастацкімі творамі, якія былі нядаўна недасягальныя. Я маю на ўвазе творы вядомых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў на эміграцыі, навукоўцаў. Гэтыя творы дасылаюць нам самі аўтары. Кнігі знаходзяцца ў бібліятэцы беларускай школы, у ТБК, "Сябрыне". Мы атрымліваем і газеты, часопісы з ЗША, Канады, Англіі, Польшчы.

У апошнія 2 гады замежныя беларусы аказалі нам і матэрыяльную дапамогу. Пра наша матэрыяльнае становішча ім добра вядома, і іх дапамога значыць многа, асабліва для старых, хворых і дзяцей. За гэта мы выказваем вялікае дзякуй спадарству Ганько, спадарам Ю. Весялкоўскаму і асабліва беларусам далёкай Аўстраліі св. айцам А. Кулакоўскаму і М. Бурносу, а таксама спадарам Міхасю Раецкаму і Алесю Алехніку. Грашовую дапамогу школе і свае творы высылае пісьменнік Кастусь Акула.

У далёкім замежжы жыве шмат беларусаў, ёсць вядомыя і не зусім, багатыя і звычайныя. Але мы маем падтрымку і ад невялікай групы зусім незаможных нашых суайчыннікаў, і мы вельмі ім удзячныя, што яны існуюць і, нягледзячы на свой узрост, думкамі сваімі з Бацькаўшчынай, з сваімі суайчыннікамі.

Ад усяго сэрца жадаем ім добрага здароўя, руплівасці і плёну ў працы і віншуем іх з надыходзячым Днём незалежнасці — 25 Сакавіка. Шчасця вам у жыцці, паважаныя нашы сябры!

**З павагай**
**Павал САЎЧАНКА.**

г. Вільнюс.

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ПАВАЛА АСІПОВІЧА

*19.II.1923—22.I.97*

Памёр Павал Асіповіч — скарбнік управы Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, сябра Англа-беларускага таварыства і сябра European Liaison group. Памёр раптоўна ў Лондане 22 студзеня 1997 года. Нябожчык у смутку пакінуў жонку Крыстыну, дачку, зяця і сына. Пахавальную паніхіду над трунай нябожчыка адправіў айцец А. Надсон з суслужэннем протаіерэя Д. Беленькага ў Беларускай капліцы св. Пятра і Паўла а 10 гадзіне 3 лютага 1997 года. На Богаслужбе, акрамя сям'і нябожчыка, прысутнічала англійская фінансавая група супрацоўнікаў нябожчыка, Яго Экселенцыя амбасадар Беларусі ў Лондане і многа сяброў-беларусаў з Лондана, правінцый Англіі і Францыі. Пасля жалобнай імшы труну нябожчыка яго сям'я аднесла ў крэматорый. 6.2.97 г. попел нябожчыка пасля імшы сям'ёй быў інтэрнаваны пры каталіцкім касцёле св. Баболі ў Лондане. Замест кветак на труну з волі яго жонкі былі сабраныя ахвяры на фонд "Дзеці Чарнобыля".

На пажагнальным абедзе ў залі пры бібліятэцы Ф. Скарыны з жалобным дакладам пра нябожчыка выступілі ад ЗБВБ старшыня юрыст Еўдакімаў, ад Англа-беларускага таварыства прафесар Дзінглі і ад сяброў М. Навумовіч.

Св. п. Павал Асіповіч нарадзіўся ў маёнтку Новаполь на Віленшчыне. У 1944 годзе немцамі быў вывезены ў Нямеччыну, адтуль у Францыю. Там ад немцаў уцёк і прылучыўся да французскіх партызан. З прыходам альянтаў уваходзіць у раду польскай арміі. Служыў у корпусе Андэрса ў Італіі. У 1946 годзе паехаў з арміяй у Англію. Скончыў эканамічны факультэт пры Лонданскім універсітэце. Адкрыў сваю бухгалтарска-фінансавую фірму, дзе працаваў да канца свайго жыцця. У 1947 годзе быў адзін з першых закладчыкаў ЗБВБ. Бясплатна загадваў фінансамі беларускіх арганізацый.

Хай усемагутны Бог даруе яму царства нябеснае!

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.

ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ



Загадчык аддзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва цэнтра выхаваўчай работы дзяцей і юнацтва горада Асіповічы Галіна ГРЫШАНОВІЧ.

Фота Віктара СТАРАВЕРА.

ДА 85-годдзя УЛАДЗІМІРА КАРПАВА

# «ПАРОЛЮ, СЯБРЫ, НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ»



Летам 1945 года, вярнуўшыся ў родны Мінск, я зайшоў у рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва". Пяць гадоў мінула з таго часу, калі я тут быў упершыню. Дакладней, не тут, а на Савецкай вуліцы, у Доме пісьменніка. Цяпер рэдакцыя размяшчалася на Рэвалюцыйнай вуліцы, у адным невялікім пакойчыку двухпавярховага будынка, дзе знаходзіўся Камітэт беларускага радыёвяшчання.

Першым чалавекам, які сустрэў мяне ў рэдакцыі, быў адказны сакратар газеты Уладзімір Карпаў. Малады, статны чалавек, са строгім валявым тварам, чорнымі з падстрыжкай валасамі. Паглядзеў на мяне, тады яшчэ таксама маладога афіцэра, і адразу запытаў:

— Адкуль, капітан? Відаць, з Берліна? — ён кінуў позірк на медаль "За перамогу над Германіяй".

— Не, у Берліне быў крыху раней, — адказаў я. — А зараз толькі што з Прагі. Там наша дывізія заканчвала вайну.

Мы пазнаёміліся. Дагэтуль не ведалі адзін аднаго. Я расказаў, што вучыўся да вайны ў Мінскім інстытуце журналістыкі, друкаваўся ў "Чырвонай змене", калі там працаваў загадчыкам аддзела літаратуры Антон Бялевіч, успомніў пра апошняга добрым словам, як ён уважліва аднёсся да надрукавання маіх першых вершаў.

— А ён зараз тут, прыехаў з Масквы, — сказаў Уладзімір Барысавіч. — Таксама ваяваў. У партызанах быў.

Гэтыя словы, сказаныя нібы між іншым, вельмі ўсхвалявалі мяне. Колькі гадоў нічога не ведаў пра сваіх дружбакоў, маладых паэтаў, з якімі разам вучыўся, працаваў. Радасна было пачуць, што многія з іх — Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Мікола Ткачоў, Іван Мележ і іншыя — вярнуліся з вайны. І мне давядзецца зноўку сустрэцца з імі — маімі добрымі сябрамі, тут, у родным Мінску, дзе прайшло наша юнацтва, адкуль мы адыходзілі ў далёкі і няпёгкі шлях.

А што ж ён так мала гаворыць пра сябе, мой субяседнік, з якім я меў гонар толькі што пазнаёміцца?

Уладзімір Карпаў! Я ўжо чуў гэтае прозвішча. Сустракаў яго на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў, за якімі сачыў увесь час і якія прысылалі мне з рэдакцый па маёй просьбе на маю палявую пошту.

— Вы працавалі ў "Савецкай Беларусі"? — пытаю ў Карпава.

— Так, пасля вайны, нядоўга. А перад вайной настаўнічаў, — сціпла адказаў ён.

Тут жа я даведаўся, што Уладзімір Барысавіч напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, як і многія з нас, быў студэнтам. Ён закончыў Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага. У час вайны таксама быў воінам. Ды яшчэ якім! Падпольшчыкам, партызанам. Ваяваў у акупіраваным Мінску з фашыстамі. Быў у спецгрупе Мінскага абкома КПБ. Падтрымліваў сувязь з адказнымі партыйнымі і савецкімі кіраўнікамі, імёны якіх яшчэ пакуль нам невядомы, якіх ведаў і ведае пакуль толькі Уладзімір Барысавіч ды яго блізкія сябры-падпольшчыкі.

Пазней я даведаюся пра ўсё гэта з аповесці Уладзіміра Карпава "Без нейтральнай паласы", з яго рамана "Нямігі крывавыя берагі", з кніг "Мы раскажам пра Мінск", "Праз агонь і смерць", у якіх выступаць з артыкуламі, успамінамі многія былыя воіны, сведкі і ўдзельнікі вялікіх падзей.

Пакуль жа я ведаю толькі адно: Уладзімір Карпаў — цудоўны журналіст і літаратуравед. Як былы настаўнік, выкладчык літаратуры, ён добра ведае творчасць нашых класікаў і сучасных пісьменнікаў, піша аб іх крытычныя артыкулы, выступае ў прэсе па надзённых праблемах развіцця нашай літаратуры.

Уладзімір Барысавіч паказвае мне пасведчанні, якія толькі што зрабілі для супрацоўнікаў рэдакцыі ў друкарні "Чырвоны друкар".

З вялікай радасцю даведваюся, што галоўным рэдактарам "Літаратуры і мастацтва" з'яўляецца мой вялікі зямляк, цудоўны беларускі паэт Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў. Яго выдатную паэму "Сцяг брыгады", надрукаваную ў маскоўскім часопісе "Знамя" ў перакладзе на рускую мову, я чытаў на фронце сваім байцам, калі быў палітруком роты.

Гаворка наша з Уладзімірам Барысавічам была кароткай, але шчырай. Ён разумеў, што я зайшоў у рэдакцыю не выпадкова, што хачу прапанаваць для газеты свае вершы. Я неяк адразу не адважваўся гэтага зрабіць. На тым і закончылася б наша першая сустрэча. Але ў пакой рэдакцыі раптам зайшоў малады, хударлявы чалавек, у летнім паношаным паліто і ў сарочцы без гальштука.

— Добры дзень! — павітаўся ён, працягнуўшы спачатку Уладзіміру Барысавічу, потым мне сваю белую тонкую руку.

— Знаёмцеся. Гэта Валянцін Таўлай, — сказаў Уладзімір Барысавіч, затым паказаў на мяне: — А гэта — капітан Прыходзька, толькі што з Прагі. Піша вершы. Але саромеецца паказаць.

— Пакажыце. Пачытаем разам.

Валянцін Таўлай паклаў на стол свой партфель і сеў побач. У блакітных вачах яго свяцілася шчырая, добразычлівая ўсмешка.

Я з хваляваннем дастаў са сваёй палявой сумкі два новыя вершы — "Роднай Беларусі" і "На Берлін", напісаныя ў канцы вайны на фронце.

Валянцін Паўлавіч уважліва чытаў іх, доўга і ўдумліва. Я ледзьве не дрыжэў ад страху. Што скажа ён, вядомы ўсім паэт-рэвалюцыянер, барацьбіт за народнае шчасце, які сам прайшоў праз вялікія выпрабаванні, праз турмы і граніцы, праз полымя суровай барацьбы?

Уладзімір Барысавіч зазважыў гэта і супакоіў:

— Не хвалюйся. Твае вершы чытае той, хто сам хлябнуў гора, сам ваяваў і калыхаў песняй паходы.

Апошнія словы мне ўжо былі знаёмы. Гэта з вершаў Таўлая, якія ён напісаў за кратамі Лукішскай турмы.

Валянцін Паўлавіч уважліва чытае, штосьці падкрэслівае, потым перадае лісткі Уладзіміру Барысавічу. Той, прыжмурыўшы вока, пераглядвае, але правак ніякіх не робіць.

Я па-ранейшаму хвалююся. Перад такімі суддзямі мне яшчэ ні разу не даводзілася стаяць і чырванець.

Малады прыгожы твар Таўлая раптам праясняцца.

— Та-а-ак! — працягла прамовіў ён і тут жа прыбавіў: — Адразу порахам запахла ад вашых вершаў.

Ён паглядзеў спачатку на мяне, потым на Уладзіміра Барысавіча.

— Прапаную надрукаваць вершы капітана. Вось тут толькі, мне здаецца, трэба крышку паправіць. — Ён паказаў на асобныя радкі, якія былі толькі што акуратна падкрэслены простым алоўкам.

Радасці маёй не было мяжы. Але я ўсё яшчэ хваляваўся. Не заўважаючы сваёй мітуслівасці, хутка надзеў шапку, зашпіліў шынель і паклаў свае рукапісы ў палявую сумку.

— Дзякуй вам. Вялікае дзякуй! — працягнуў я на развітанне руку Валянціну Паўлавічу, потым Ула-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА – БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

Прыгожа і мілагучна выконваў сола пад акампанемент хору песню "Каля хацінкі" Язэп Васілеўскі. Сучаснікі адзначалі незвычайнае ўздзеянне на публіку яго спеваў. Лепш за яго ніхто не мог выканаць гэту песню. Калі Язэпка спяваў з хорам "Каля хацінкі", то заўсёды наварочваліся на вочы слёзы і па спіне бегалі "мурашкі".

"Мімаволі ўспамінаецца маленькі, прыгожанькі хлапчук, які ў часе канцэртаў хору выходзіў наперад сцэны і сваім звінным, прыгожым мілагучным альтам зачароўваў слухачоў. Яго любілі ўсе", — пісаў пра яго ў некралогу 4 мая 1929 года К. Пуроўскі. Ён успамінае і другі выпадак: "...У час ваеннае завірухі, калі сярод чырвонаармейцаў праводзіліся бясконцыя мітынгі і хор Тэраўскага, адзіная ў той час, можна сказаць, беларуская культурная вакальная адзінка, перабягаў з аднаго мітынгу на другі, даваў канцэрты па некалькі разоў у дзень — Язэпка-хлапчук заўсёды быў з хорам.

Увечары 23 лютага 1919 года хор выступаў для франтавікоў на мітынгу ў клубе імя Карла Маркса. Байцоў прышло на гэты мітынг вельмі многа — недзе было і працы. Калі ж пасля некаторых праграмных песень хор праспяваў "Каля хацінкі", дык увачавідкі прышлося пераканацца, якую сілу мае песня, дайшоўшая да сэрца слухача і кранулая душу слухача. Ледзь толькі прагучэлі апошнія акорды гармоніі, як з поўхвілінна ў зале стаяла немая цішыня, нібы здарылася штосьці незвычайнае. Магчыма, гэтая песня нагадала кожнаму з прысутных яго хату і гора сям'і. А потым што пачало дзеяцца ў зале — цяжка й сказаць! Надрыўны гул-плач пракаціўся ў натоўпе. Усе ўскочылі як наэлектрызаваныя. Магутныя рукі байцоў схапілі малога хлопчыка Язэпку са стала, на якім ён адзін стаяў і спяваў, бо сцэны для хору там не было, і пачалі яго шчыра, ад сэрца "качаць" — проста такі, як мячык, шпурляць над галовамі: відаць было, што кожнаму хацелася хоць дакрануцца да гэтага малога асілка-чарадзея, які так узварушыў ім душу, і чымсьці аддзякаваць яму за вялікую асалоду".

Якія песні выконваў хор? Вядома ж, найперш рэвалюцыйныя: міжнародны гімн "Інтэрнацыянал" ("Паўстань, праклятым катаваны") у гарманізацыі Тэраўскага, "А хто там ідзе?" (словы Я. Купалы, музыка Л. Рагоўскага), "Беларуская Марсельеза" ("Ад веку мы спалі", словы А. Мікульчыка, гарманізацыя У. Тэраўскага), "Вяцкі марш" ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі", словы Макара Краўцова, музыка У. Тэраўскага). Дзве апошнія песні сталі на доўгія гады гімнамі для свядомых беларусаў у БССР і на эміграцыі. У Заходняй Беларусі польскія ўлады забаранялі іх выкананне. У БССР "Беларуская Марсельеза" спачатку была дзяржаўным гімнам, затым, к канцу 30-х гадоў, яна таксама была забаронена.

Акрамя вышэйпамянёных, выконваліся песні "Панам мы песні не співаем", "Чачотачка", "Каля хацінкі", "Чалавек жонку б'е", "Маладая дзяўчынанька", "Дуда" і іншыя. Любілі і часта спявалі песні на словы Янкі Купалы.

У справаздачы Беларускага савецкага тэатра ў Наркамасветы БССР за студзень — люты 1919 года распісваецца дзейнасць харальнай (так яна называлася) секцыі: "Створаны рэпертуар палітычна-рэвалюцыйных песень, павялічаны рэпертуар беларускіх песень, а таксама створаны шляхам гарманізацыі шэраг беларускіх аўтэнтычных і штучных твораў.



Уладзімір ТЭРАЎСКІ.

Акрамя таго, хор меў магчымасць, дзякуючы вялікаму свайму рэпертуару, выступаць не толькі ў сценах Беларускага тэатра (у дывертысменце) і канцэртах-мітынгах, але і прымаў удзел па-за сценамі Беларускага тэатра, напрыклад, хор выступаў 2 разы ў канцэртах для дзяцей беларускіх школ, 2 разы — у Доме прасветы Чырвонай Арміі, 2 разы ў дзень 23 лютага, 2 разы ў гарадскім тэатры на мітынгах, ва ўсіх спектаклях Беларускага тэатра, звязаных са спевамі і канцэртнымі аддзяленнямі". Затым ішоў пералік песень, якія ўваходзілі ў рэпертуар хору (у колькасці 108 нумароў). Акрамя песняў, называлася дзіцячая опера "Страказа і муравей".

1920 год узнёс Тэраўскага на вяршыню славы і быў, бадай, самым шчаслівым для яго.

Вось як хораша пісаў пра тэатр і хор З. Бядуля ў студзеньскім нумары часопіса "Беларускае жыццё":

"Тэатр за гэты перыяд зрабіў сваю вялікую справу ў адраджэнні Беларусі. Беларускае слова са сцэны было самай жывой агітацыяй за беларускую справу. Сцэна вербавала гэткім чынам беларусаў да свядомае нацыянальнае працы... Побач з тэатрам трэба казаць і аб беларускім хоры У. Тэраўскага. Можна адзначыць, зусім не хвалячыся, што гэткім знамянітым хорам магла бы гардзіцца любая нацыя, болей культурная за нашу, і недарэмна У. Тэраўскі нажыў сабе славу і папулярнасць сваім хорам — ён гэта заслужыў вялікай і кемнай працай. У. Тэраўскі — мастак-самародак. Чары і гармонія беларускіх народных песняў захапілі яго душу. Добра ведаючы дух нашых мелодый, ён іх стылізуе так, як лепей не трэба. Апроч таго, ён сам вельмі ўдачна піша новыя песні ў беларускім характары!"

У лютым 1920 года рыхтаваўся вялікі канцэрт Беларускага хору, які меўся быць 8 лютага. Напярэдадні ў газеце "Беларусь" быў надрукаваны невялікі матэрыял пра хор. Аўтар яго — Дзяргач (В. Адамовіч), удзельнік хору і акцёр тэатра, аўтар некалькіх драматычных твораў ("Дзіця Бацькаўшчыны", "Лес шуміць", "Распад душы"). У артыкуле сказана многа цёплых слоў пра добрую працу хору на карысць адраджэння роднага краю, абуджэння нацыянальнага пачуцця ў народзе. "Як прыемна, — піша аўтар, — слухаць родныя матывы нашай старонкі! Некая прыемная нуда лажыцца на душу, устаюць, як жывыя, адзін за адным абразы жыцця брата-беларуса ў вёсцы. Слухаеш, як паюць, і ў душы падымаецца нешта, расце і пераносіць цябе ў далёкую вёску! І хочацца зрабіць так, каб палепшала жыццё брату-беларусу ў сваёй старонцы..."

Працяг.
Пачатак у №№ 8 — 9

Аляксандра ГЕСЬ,
Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.

# КРЫЖ МІХАІЛА САВІЦКАГА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

"Нясенне крыжа" — чалавек нясе свой смяротны крыж, а ўсім навокал пляваць, нясеш — ну і нясі сабе.

Канешне, многа думаў, як жа мне паказаць тое, што адбываецца. Рашыў, што напішу карціны пра харошых людзей, якія да іх сёння адносіны, як яны жывуць і выглядаюць гэтыя харошыя людзі.

— А якіх людзей вы лічыце харошымі?

— Гэта ж і ёсць самае цяжкае пытанне. Уявіў, што я буду пісаць харошых людзей, а мне скажуць, што гэта я так пра іх думаю, а нехта бачыць гэтых людзей зусім іншымі. Тады я рашыў, хто можа вызначыць, якія гэта людзі, — Ісус Хрыстос. З ім спрачацца немагчыма. А ён у Нагорнай пропаведзі вызначыў: "Шчаслівыя ўбогія духам". Менавіта яны здабудуць вечнае шчасце і царства Божае.

— Без тлумачэння не ўсе разумеюць, каго Хрыстос лічыў убогімі духам.

— Ёсць душа, і ёсць дух. Дух чалавеку дадзены Богам і павінен служыць іншым людзям. Той, хто дух свой рэалізаваў, рабіў дабро, нёс асвету, аддаваў сябе іншым, ён і стаў убогім духам. Зыходзячы з гэтага тлумачэння, я ўзяў як харошых людзей тых, хто будаваў нашу раней вялікую дзяржаву, не шкадуючы сябе абараняў яе ад ворагаў, а потым адбудоўваў. Усё жыццё паклаў на гэта. І якія яны сёння гэтыя харошыя людзі. Каб паказаць іх, я напісаў невялікую партрэтную кампазіцыю "Ветэраны", потым пісаў "Шчаслівыя тыя, што плачуць", "Шчаслівыя, выгнаныя за праўду", "Пакорлівыя", "Шчаслівыя міласэрныя". Вось над гэтым я зараз і працую.

— Міхаіл Андрэевіч, як мастак калі вы лепш сябе адчувалі, тады або цяпер, у новых умовах?

— І тады я выконваў свае работы так, каб яны адпавядалі мэце мастацтва, тое самае раблю і зараз. Мяне выклікалі "на дыван", крытыкавалі, мякка кажучы, папярэджвалі, што калі буду рабіць **так**, то не буду рабіць ніяк. Тым не менш, я пісаў так, як разумеў мэту мастацтва.

— А якая яна, мэта мастацтва?

— Пераўтварэнне чалавека — галоўная мэта мастацтва. Паказваць дабро і зло. Воблікі зла вельмі розныя, таму і пошукі ў мастацтве розныя. Мастак павінен паказваць непрыняцце зла, напрыклад, такога, як Чарнобыль... Усё гэта вельмі складана, таму лічу, што мастакоў у нас многа, а сапраўдных карцін мала. Мастакі цяпер часта працуюць на патрэбу дня.

— Калі яшчэ вярнуцца да мінулых часоў, то помніцца, што з Машэравым у вас былі добрыя адносіны. І па яго просьбе вы нават зрабілі папраўку ў адной са сваіх карцін з цыкла "Лічбы на сэрцы".

— Так, з Машэравым адносіны ў нас наладзіліся ў 70-я гады, а да таго я быў ідэалагічным дыверсантам. І папраўка, якую вы згадваеце, была проста ўступкай асабіста Машэраву, які зведваў на сабе неверагодны ціск з боку тых, хто не прымаў маю канцэпцыю ў адносінах да яўрэяў.

— А якія ў вас адносіны з цяперашняй уладай, ці адчуваеце разуменне і дапамогу?

— Да нядаўняга часу я адчуваў сябе спісаным "за ненадобнасцью". І раптам да майго 75-годдзя мяне "адшукалі". І пайшла бу-



ча. Прапанавалі ў Маскве арганізаваць персанальную выставу. А я сказаў, што не буду рабіць.

— Чаму?

— Я не ў стане гэта зрабіць. Карціны трэба аформіць, а мне няма за што матэрыялы купляць. З дабаўкай як дырэктару майстэрняў я атрымліваю 1 мільён 200 тысяч рублёў у месяц. Дзяржава работ маіх не купляе, за мяжу я іх не прадаю. Свае карціны я ніколі за мяжу не прадаваў. І цяпер прыязджаюць вельмі багатыя людзі, прапаноўваюць, каб я назваў любую суму. Я не прадаю прынцыпова.

— І як дзяржава дапускае, каб вы так гаравалі?

— А пры чым тут дзяржава? Вы ведаеце прыклады, каб дзяржава зараз займалася культурай?

— Не, не ведаю.

— Прэзідэнт цяпер абяцае, што будзе развіваць і падтрымліваць культуру, навуку, фундаментальную навуку. Хоць я ведаю, што ў нашай Акадэміі мастацтва грошай не хапае на ўтрыманне, на ацяпленне, на асвятленне. У нас была свая мастацкая школа, нядрэнная школа, яе толькі трэба было ўдасканальваць. Разбурылася. Мы забыліся, што адзіным сапраўдным капіталам з'яўляецца чалавек і што яго трэба ствараць.

— Сёння вартасць чалавека вызначаецца колькасцю "баксаў", якімі ён валодае.

— У нас праца нічога не вартая, і чалавек нічога не варты. Гэта і ёсць самая агрэсіўная каланізацыя.

— А хто каланізатары?

— Гэта фінансавая алігархія свету, фінансавыя вярхі свету. Неакаланізацыя — геніяльнае і найпрасцейшае адкрыццё. Неакаланізатары зразумелі, што ім непатрэбна ўзброенае ўварванне ў нейкую краіну. Ім патрэбна эканоміка, рэсурсы краіны, на якую яны нацэліліся. А яшчэ неакаланізатары вырашылі: давайце дадзім ім дэмакратыю і як мага больш партый, каб людзі змагаліся за ўладу, а пакуль яны будуць змагацца, пачнем вывозіць рэсурсы. Зараз вывозяцца з Расіі велізарныя каштоўнасці, рэсурсы і нават не за долары, а задарма.

На сусветны рынак прабіцца таксама немагчыма, бо ўсё ў свеце даўно размеркавана. Гэта як у нас на стадыёне "Дынама". Паспрабуйце прыйсці і заняць чыю-небудзь палатку — вам глотку перагрызуць. Так ні Расіі, ні Беларусі не дадуць уціснуцца на гэты рынак. І яшчэ за гэты час парушыўся баланс паміж вытворчасцю матэрыяльных каштоўнасцей і культурай на карысць вытворчасці матэрыяльных каштоўнасцей. Страты ў культуры растуць з кожным годам. У Еўропе ўжо амаль не засталося мастакоў у выяўленчым мастацтве. Разбураны тэатар, музыка. Авангард — гэта пагібель для нацыянальнай культуры. Ствараецца культура, аднолькавая для ўсіх нацыянальнасцей. Тое ж самае і ў Беларусі. Ідзе барацьба за ўладу, на гэта выдаткоўваюцца вялікія сродкі, а культурай займацца няма калі.

Юбілей Міхаіла Савіцкага прайшоў урачыста і на высокім узроўні. Мастака віншаваў Прэзідэнт А. Лукашэнка. М. Савіцкі ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. У філармоніі адбыўся ўрачысты вечар у яго гонар. Добра было б, каб і пасля юбілею не пакідалі мастака сам-насам з яго творчымі і бытавымі праблемамі, каб адчуваў ён падтрымку і дапамогу, таму што талент Міхаіла Савіцкага — нацыянальны здабытак.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА**



## *ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ*



Народная артыстка Разспублікі Беларусь Святлана АКРУЖНАЯ добра вядомая гледачам па ролях у спектаклях "Генрых VI", "Хам", "Любоўнікі з Каліфорніі" і іншых, сыграных ёю на сцэне Беларускага драматычнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Мікола АЛТУХОЎ**

### ВЯСНА

**Адплакалі мяцеліцы,**
**Завеі-свістуны,**
**Парок у полі сцелецца,**
**Як хустачка вясны.**

**Прырода прачынаецца**
**Ад казачнага сну,**
**І сонейка ўсміхаецца,**
**Вітаючы вясну.**

**Шумяць лясы духмяныя,**
**Праменяцца палі.**
**Вясна доўгачаканая**
**Лунае на зямлі.**

**Яна глядзіць пралескамі**
**На возера і гай**
**І жаўруковай песняю**
**Запаланіла край.**

**Вясна звініць над рэчкаю**
**І ў сініх ручаях,**
**І свеціцца сінечаю**
**Яна ў тваіх вачах.**

**Душа пяе ўстрывожана,**
**Паўнюткая святла.**
**Вясна, вясна прыгожая**
**У сэрцах расцвіла!**

### ПТУШКІ ВЯРТАЮЦЦА

**Чую я ўсплёскі жаданыя,**
**Пошчак крыніц дацямна.**
**Музыку доўгачаканую**
**Краю вярнула вясна.**

**Песню птушыную шчырую**
**Я каля рэчкі знайшоў.**
**Птушкі вяртаюцца з выраю**
**Пад перазвон ручаёў.**

**Доўга звінелі, іх клікалі**
**Перад зарой ручайкі,**
**Каб жураўлі закурлыкалі,**
**Каб заспявалі шпакі.**

**Гусі ляцяць, прызямляюцца**
**Каля сінечы азёр,**
**Качкам здалёк усміхаецца**
**Строгі, задумлівы бор.**

**Першыя песні чароўныя**
**Птушкі спяваць пачалі.**
**Слаўныя нашы вандроўнікі,**
**Мір вам на роднай зямлі!**

### ПРАЛЕСКІ

**Яшчэ сцюдзёны ранак,**
**Марозка на зямлі,**
**А на лясных палянах**
**Пралескі расцвілі.**

**Пялёсткі іх раскрыты,**
**Як вочкі, раніцой,**
**І радуюць блакітам**
**Яны мяне з табой.**

**Чакаем птушак з поўдня**
**Мы у світальны час,**
**Глядзім на лес чароўны,**
**А лес — глядзіць на нас.**

## *НАВУКОВЫ ПОШУК*

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

На першы выпадак тут быў бы патрэбны адпаведны памятны знак, аб якім, пэўна, парупяцца мясцовыя краязнаўцы, кіраўнікі і грамадскасць раёна. Надпіс мог бы быць прыкладна такі:

> У першай палове — сярэдзіне XIX стагоддзя сядзіба Гюнтэраў у Дабраўлянах была вядомым культурным асяродкам. Дачка Гюнтэраў Габрыеля Пузына (1815—1869) праславілася як пісьменніца і мемуарыстка. Другая дачка Мацільда Бучынская (1811—1867) саслана царызмам за патрыятычна-філантрапічную дзейнасць.
>
> Тут гасцявалі многія выдатныя сучаснікі — мастакі, літаратары, артысты.
>
> У 1855 годзе паэт Уладзіслаў Сыракомля пасадзіў тут клён.
>
> У 1863—1864 гадах у Дабраўлянах жыў класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Цікава, што паўночны куток Смаргонскага раёна, як і сумежныя часткі Мядзельскага і Вілейскага раёнаў, наогул мае, скажам так, шчыльную літаратурную гісторыю. Бліжэйшымі суседзямі Гюнтэраў былі Сулістроўскія, якія валодалі маёнткам Вішнева. Праз жонку — Ірэну Сулістроўскую — гэты маёнтак атрымаў у свой час выдатны культурны дзеяч Ян Карловіч, і тут у канцы стагоддзя часта бываў яго сябра і даверaная асоба Францішак Багушэвіч. Зусім побач збіраў фальклорныя матэрыялы Адам Гурыновіч для вядомай сваёй публікацыі "Збор беларускіх твораў (з Вішнеўскай воласці, Жодзішскай парафіі, Свянцянскага павета, Віленскай губерні)" (1893).

Дарэчы, не зусім дакладная інфармацыя на тэму, якая нас сёння цікавіць, змешчана нядаўна ў артыкуле І. Драўніцкага "Шчодрая на таленты зямля" пра "літаратурную карту" Мядзельшчыны ("Роднае слова", 1994, № 7—8). У цэлым артыкул вельмі змястоўны, аўтар сабраў надзвычай багаты матэрыял пра літаратараў мінулага і сучаснасці, звязаных з Мядзельшчынай. Але ў вялікай працы не абышлося і без асобных агрэхаў. Там падаецца наступны тэкст (размова ідзе пра Болькава, вёску ў Свірскім пасялковым Савеце Мядзельскага раёна): "З пачатку 1934 г. [1834] Болькаўскім маёнткам валодала Мацільда Бучынская, філантропка, заступніца бедных. Яна была цесна звязана з патрыятычна-вызваленчым рухам на Беларусі ў 1830—1831 і 1863—1864 гг. У яе маёнтку некаторы час пасля задушэння паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага хаваўся паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч. За сувязь з паўстанцамі М. Бучынская была арыштавана. Да М. Бучынскай часта наведвалася яе сястра Габрыеля Пузына (1815—1869), вядомая паэтка і мемуарыстка, якая жыла ў Дабраўлянах (цяпер Смаргонскі р-н) — маёнтку, што на той час быў правінцыйным цэнтрам з унікальным музеем, аформленым беларускім мастаком-жывапісцам К. Бахматовічам".

Тэкст гэты патрабуе сур'ёзных карэктываў. У чытача можа скласціся ўражанне пра нейкі штучны падзел: Болькава звязана з Бучынскай, Дабраўляны — з яе сястрой Пузынай. А між тым, як відаць з матэрыялаў нашага нарыса, Бучынскай належала не толькі Болькава, але (з 1851 года) і Дабраўляны. Яе сястра Г. Пузына, зразумела, у Болькаве бывала. З гэтым нельга не пагадзіцца. А вось што тут — у Болькаве (так вынікае з тэксту) — хаваўся пасля паўстання 1863 года Францішак Багушэвіч — такога навука не ведае. Дзе канкрэтна хаваўся паўстанец Багушэвіч да свайго выезду ў Нежын, біёграфам пакуль невядома. Магчыма, аўтар артыкула І. Драўніцкі меў на ўвазе ўсё таго ж Дуніна-Марцінкевіча, які ў 1863—1864 гадах жыў (можна сказаць і — хаваўся) у Дабраўлянах, Свіры. Улічваючы яго блізкія сувязі з Бучынскай, можна было б меркаваць, што ён бываў у гэты перыяд і ў яе недалёкім маёнтку Болькава, але гэтаму супярэчыць наступнае паведамленне ўжо згаданага знаўцы гісторыі панскіх сядзібаў Р. Афтаназы: "У 1863 годзе, перад самым выбухам Паўстання, непасрэдна ад Бучынскіх ці праз аукцыён спадчыны пасля Маўрыцыя Бучынскага набыў Лынтупы, а таксама недалёкае, размешчанае над возерам Свір Болькава пецярбургскі адвакат Ежы Бішэўскі на грошы сваёй жонкі з роду Гарэцкіх, удавы пасля вельмі багатага першага мужа".

Выходзіць, калі верыць гэтай інфармацыі, у Болькаве ў 1863 годзе ўжо гаспадарылі іншыя людзі. Але, вядома ж, і паведамленне шаноўнага Р. Афтаназы, як і ўсякае іншае, яшчэ патрабуе дакументальнага пацвярджэння. Звычайна паны, далучаныя да вызваленчага руху, мусілі прадаваць свае маёнткі пасля паўстання пад націскам улад. Так было — мы ўжо бачылі — з Дабраўлянамі. Ці была патрэба пазбаўляцца Болькава перад паўстаннем? Хіба што Бучынскай тэрмінова спатрэбіліся грошы на тыя ж патрыятычна-філантрапічныя мэты? Нешта не зусім зразумелае гаворыць Афтаназы пра "аукцыён спадчыны пасля Маўрыцыя Бучынскага", які — мы бачылі — памёр за пятнаццаць гадоў перад гэтым. Зноў даводзіцца шкадаваць аб страце другой часткі мемуараў Габрыелі.

Так што пытанні астаюцца, наша даследаванне ніяк не можа лічыцца завершаным. З цягам часу яно будзе ўдакладняцца.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 5—9.

*НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА*

# КНЯЗЁЎНА З ТРЫМА ІМЁНАМІ

Апрача чалавека, ніхто з жывых істот не цікавіцца сваім паходжаннем, сваімі каранямі, справамі сваіх продкаў. Шмат што забылася на свеце, а сумны лёс князёўны Рагнеды застаўся ў народнай памяці, жыве ў паданнях. Вось адно з іх, пачутае мной у дзяцінстве ад бабулі.

Даўным-даўно ў полацкага князя Рагвалода нарадзілася дачка, якую назвалі Рагнедай. Калі князёўне споўнілася чатырнаццаць гадоў, пасваталіся да яе два браты — кіеўскі князь Яраполк і ноўгарадскі князь Уладзімір. Браты паміж сабой варагавалі. Малодшы Уладзімір не хацеў падначальвацца старэйшаму — Яраполку.

Наспявала вайна. Браты разлічвалі, што князь Рагвалод дапаможа сваім войскам таму з іх, хто стане мужам ягонай дачкі. Рагнедзе спадабаўся Яраполк. Уладзіміру яна са згоды бацькі адмовіла. Сваты раз'ехаліся: адны з сумнай весткай у Ноўгарад, другія з радаснай весткай у Кіеў. Было гэта зімой 980 года. Рагнеда чакала лета, калі да яе, па звычаях таго часу, павінен быў прыехаць жаніх. Ды лёс вырашыў іначай. Уладзімір сабраў вялікае войска і, як толькі сышоў снег, нечакана напаў на Полацк. Месяц цягнулася асада горада. Палачане мужна абараняліся, ноўгарадскае войска ўсё ж перамагло. Захопнікі ўварваліся ў Полацк, пачалі рабаваць двары, падпальваць хаты. Параненага князя Рагвалода, яго жонку і двух сыноў забілі. А Рагнеду Уладзімір сілай прымусіў стаць сваёй жонкай.

Пасля гэтага Уладзімір з войскам рушыў на Кіеў. Ён перамог у бітве брата Яраполка, загадаў забіць яго, а сам стаў князем кіеўскім. Там, у Кіеве, святкаваў ён свой шлюб з Рагнедай. Па старадаўняму звычаю, жанчына, калі выходзіла замуж, мяняла імя. Рагнеда назвалася Гарыславай, каб імя гэта напамінала аб тым, што згарэла слава Полацка. Пасялілі Гарыславу ў вёсачцы паблізу Кіева. Тут у яе нарадзіліся тры сыны і дзве дачкі. Але памяць пра бацьку, маці, братоў не давала спакою. І Рагнеда вырашыла адпомсціць за родных. Аднае начы падышла да ложка, дзе спаў Уладзімір, і ўдарыла яго нажом. Цэліла ў сэрца, ды прамахнулася. Князь ускочыў, схапіўся за меч і ў лютасці хацеў засекчы Рагнеду. На шум выбег са свайго пакоя старэйшы сын Ізяслаў. Ён засланіў маці і сказаў: "Бацька, раней забі мяне!" Князь астыў, а назаўтра абвясціў: малодшых дзяцей Рагнеда не ўбачыць ніколі, а са старэйшым паедзе пад Мінск, у невялікую крэпасць, якую ён даруе Ізяславу. Адсюль і пайшла назва горада — Заслаўе. Тады гэта быў глухі кут пасярод адвечнай пушчы, непраходных балот. Рагнеда і Ізяслаў пражылі тут год. Уладзімір тым часам прыняў хрысціянства і




распачаў хрышчэнне ва ўсіх гарадах. Пасланае ім войска прыйшло і ў Заслаўе. У Рагнеды аднялі сына, павезлі ў Полацк, а яе сілай пастрыглі ў манашкі і пад імем Анастасіі зачынілі ў цеснай келлі. Цэлых дванаццаць гадоў пакутавала былая князёўна ў нявол. Нарэшце Ізяслаў, які ўжо быў князем полацкім, захацеў вызваліць маці. І раптам, амаль у адзін дзень, Рагнеда памірае ў Заслаўі, а Ізяслаў — у Полацку. Дзевяць стагоддзяў хвалюе людзей загадка гэтай адначаснай смерці маці і сына. Магчыма, абодва сталі ахвярамі змовы, атрымалі з кубкам піва смяротную атруту...

Сёння ўсе, хто наведвае старадаўняе Заслаўе, прыходзяць да кургана Рагнеды, каб аддаць пашану памяці полацкай князёўне-пакутніцы, якая пражыла за свой кароткі век тры жыцці пад трыма імёнамі.

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

## ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ



На Камсамольскім возеры Мінска займаюцца члены аздараўленчага клуба "Саратнік". Жанчыны і тут ні ў чым не ўступаюць мужчынам.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# АЎТАР АДЗІНАЙ КНІГІ

Яна называецца "На бераг", а з'явілася яшчэ ў 1932 годзе, калі маладому паэту Кліму Грыневічу споўнілася толькі 20 гадоў. Працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы — Магілёў — Рослаў, вучыўся ў Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме, працаваў на будоўлі, карэктарам у друкарні, у рэдакцыях газет, сакратаром Рэспубліканскага ЦК прафсаюзаў работнікаў сельскай гаспадаркі. На літаратурна-творчым аддзяленні Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута К. Грыневічу доўга вучыцца не давялося: у 1933 годзе, калі быў студэнтам першага курса, яго рэпрэсіравалі і выслалі ў Чымкенцкую вобласць, дзе ён настаўнічаў, пасля быў інспектарам раёна, затым служыў у арміі. З 1937 года К. Грыневіч працаваў настаўнікам у школах горада Балагое Калінінскай вобласці і адначасова вучыўся на літаратурным факультэце Ленінградскага педагагічнага інстытута імя А. Герцэна. Памёр 3 сакавіка 1941 года. Дэбютаваў у 1929 годзе ў газеце "Піянер Беларусі", друкаваўся таксама ў "Чырвонай змене". Цяпер творы К. Грыневіча можна сустрэць толькі ў калектыўных зборніках ды заказаць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі яго першую і адзіную кнігу.

# НЕ ПАГАРДЖАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ

285 гадоў назад, 19 лютага 1712 года, у Дзятлаве нарадзіўся польскі і беларускі пісьменнік Удальрык (Ульрык) Кшыштаф Радзівіл (памёр у 1763 годзе). З 1734 года — канюшы, з 1762-га — пісар Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар кніг "Апісанне клопатаў людзей усіх саслоўяў" (1741), "Маральныя элегіі" (1752), "Агульная гісторыя" (1752). У рукапісе засталася яго праца "Свецкая крытыка, або Сатыра". Займаўся таксама і перакладамі на польскую мову твораў Сафокла, П. Карнеля, Ж. Расіна. А яшчэ спрабаваў увесці ў спектаклі, што ставіліся ў прыдворных тэатрах, беларускую мову. У прыватнасці, па-беларуску гаварыў адзін з герояў пераробкі Радзівілам твора Э. Бурселя "Камедыя Эзопа".

# ПАРОЛЮ, СЯБРЫ, НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

дзіміру Барысавічу. — Прабачце, што адабраў у вас час. Вы так уважліва аднесліся да маёй асобы, яшчэ не ведаючы, хто я, адкуль. Я гэтага ніколі не забуду. Да пабачэння. Я спяшаюся на цягнік. Еду на радзіму, у свой Хоцімск.

— А вершы? Вершы пакіньце!

— Вершы дашлю поштай. Пасля паправак.

Так я меў вялікае шчасце ўпершыню блізка пазнаёміцца з беларускім пісьменнікам Уладзімірам Карпавым і праз яго з выдатным песняром нашага часу Валянцінам Таўлаем.

Пазней, калі прачытаю іх кнігі, мне здадуцца вельмі блізкімі і падобнымі іх лёсы, пройдзеныя імі баявыя дарогі. Адзін — былы вязень, паэт-рэвалюцыянер, які некалькі гадоў пакутаваў за турэмнымі кратамі, сядзеў у Лукішках, двойчы пераходзіў дзяржаўную граніцу, каб пабываць у Савецкім Саюзе, не зломлены жалезам, не скораны нічым, вечна малады воін. Другі — таксама мужны воін-барацьбіт за вызваленне Радзімы ад фашысцкай цемры, салдат-падпольшчык, які пераходзіў праз лінію фронту, знаходзіў сваіх таварышаў-разведчыкаў, не раз глядзеў смерці ў вочы, ходзячы па варожых тылах, перамагаючы смерць, вызваляючы ад яе многіх, многіх сваіх суайчыннікаў.

Цяпер прыгадваюцца вершы Валянціна Таўлая з яго кнігі, якая выйшла ў хуткім часе пасля нашай першай сустрэчы і развітання:

**І доўга бярэзніку шастаць,**
**І доўга цвісці незабудкай, —**
**паролю, сябры, не забудзьце,**
**ўзышоўшы на сцежку**
**да шчасця.**

Яны абодва — воіны-салдаты, прайшоўшы праз вялікія выпрабаванні, да канца жыцця помнілі свой пароль: "Жыве Камуна. Жыве Радзіма. Жыве народ!" Пад гэтым паролем яны ішлі на подзвіг, на барацьбу са злейшым ворагам чалавецтва — фашызмам. З гэтым паролем яны перамаглі ворага і пайшлі ў сваё бяссмерце.

Валянціна Таўлая больш я не бачыў. Ён памёр ранняй вясной 1947 года, не дачакаўшыся сваёй першай кнігі, якая набіралася яшчэ ў друкарні, калі над ім прагрымелі трубы цяжкай, да болю цяжкай жалобы...

З Уладзімірам Карпавым мне пашчаслівілася сябраваць і разам працаваць у літаратуры на працягу многіх гадоў. Часта мы разам ездзілі ў творчыя камандзіроўкі, адпачывалі ў Дамах творчасці, выступалі на літаратурных сустрэчах перад сваімі чытачамі. Я чытаў яго раманы, аповесці, крытычныя артыкулы, захапляўся тым, што ён, як пісьменнік, заўсёды ішоў у нагу з часам, адгукаўся на самыя надзённыя праблемы нашага жыцця.

Усім вядома, што адным з першых раманаў у беларускай пасляваеннай літаратуры на тэму аднаўлення мірнага жыцця быў раман Уладзіміра Карпава "За годам год". Перад тым як яго напісаць і ў працэсе напісання яго аўтар дзесяткі разоў сустракаўся з архітэктарамі Мінска, з будаўнікамі, знаёміўся з іх праектамі і планамі, прымаў удзел у розных пасяджэннях, дзе абмяркоўваліся пытанні будаўніцтва. І галоўнае: пісьменнік быў заўсёды сярод людзей — герояў сваіх кніг, жыў з імі, працаваў.

Так нарадзіўся другі раман "Вясеннія ліўні" — пра рабочых Мінскага аўтамабільнага завода, многія з якіх самі пазнавалі сябе ў гэтым творы.

Уладзімір Барысавіч любіў многа ездзіць па рэспубліцы, часта сустракацца са сваімі чытачамі на заводах, у калгасах і саўгасах, у кніжных магазінах і бібліятэках.

Помніцца, аднойчы мы выступалі ўдвох перад рабочымі Мінскага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Уладзімір Барысавіч не чытаў сваіх твораў і нават не расказваў пра іх. Яго раманы ведалі і чыталі амаль усе прысутныя ў зале. Ён расказваў, як пачынала аднаўляцца, а дакладней, будавацца нанава беларуская сталіца, якой яна была пад канец вайны, ушчэнт зруйнаваная нямецкімі фашыстамі.

— У цэнтры горада, — гаварыў ён, — паланела жыта, а ў трамвайны парк на Даўгабродскай вуліцы ноччу забягалі зайцы. Горад быў падобны на нядаўняе поле бою, якое зарастала травой і шумела маладой нівай...

Ён расказваў далей аб тым, як у Мінск прыязджалі з франтоў першыя будаўнікі, такія, як сталінградзец, былы салдат, цяпер Герой Сацыялістычнай працы Дзяніс Булахаў, як закладваліся першыя падмуркі і выраталі новыя, яшчэ больш прыгожыя дамы, палацы, карпусы шматлікіх заводаў і фабрык.

Мяне ён браў з сабой заўсёды на такія выступленні, як сам гаварыў, "для падтрымкі", каб пасля яго дапоўніць нашу сустрэчу з чытачамі баявымі вершамі, цёплым лірычным словам.

— Што пішаш, над чым зараз працуецца? — пытаўся заўсёды Уладзімір Барысавіч. Радаваўся маім удачам, як сваім, а калі заўважаў рытарычнасць, паспешлівую надзённасць, гаварыў аб гэтым проста і шчыра. Трэба сказаць, што паэзію ён разумеў тонка і глыбока. Не адну дысертацыю мог бы напісаць пра такіх выдатных майстроў паэтычнага слова, як Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Максім Лужанін. Але ён, выдатны крытык і літаратуразнаўца, як кажуць, з галавой увайшоў у мастацкую прозу. У яго задумах шмат было ненапісаных твораў. І тое, што не дасказаў ён, раскажа нам яго творчасць.

Пра творчасць Уладзіміра Карпава шмат пісалі і будзе яшчэ нямала напісана. Я ж хацеў у гэтым кароткім артыкуле толькі падкрэсліць, які гэта быў чулы і ўважлівы чалавек, добры, шчыры, праўдзівы пісьменнік. Ён жыў для людзей, змагаўся ў імя іх шчасця і дабрабыту.

Уладзімір Карпаў пайшоў ад нас у росквіце сваіх творчых сіл. Усё пакінуў людзям, сябрам, нашчадкам, каб добра ўсім жылося, каб помнілі і не забывалі яго — салдата, пісьменніка, вернага сына Радзімы.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

1978 г.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 319.
Падпісана да друку 3.3.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.